● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

5 снежня 1996 г.
чацвер, № 282 (23085)

# ЗВЯЗДА



*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ... У МІНСКУ ГАНДЛЮЮЦЬ КАНЬЯКОМ ПА 27 МІЛЬЁНАЎ

**Калі па рэдакцыі пайшла пагалоска аб тым, што недзе побач з Домам прэсы ў магазіне прадаецца каньяк коштам у 27 мільёнаў рублёў за бутэльку, многія гэтаму напачатку не паверылі. Нават сведчанні міліцыянераў з аховы будынка, якія сцвярджалі, што ўжо двойчы ездзілі глядзець на гэты «цуд», не рабілі інфармацыю больш праўдзівай. Дайшло нават да смешнага: калега, не разабраўшыся ў чым справа і не пачуўшы дакладна названай лічбы, спрабаваў уцісцуць у кішэню грошы на дзве бутэлькі каньяку па 27 тысяч рублёў. Што і гаварыць, падставы для сумненняў былі вялікія — як-ніяк, каньяк «цягнуў» на суму, якая перавышае тысячу «баксаў», ці, па сцвярджэнню рэдакцыйных дасціпнікаў, на «паўтоны гарэлкі». Найлепшым спосабам расставіць усе кропкі над «і» было наведванне магазіна.**

... Вуліца Багдановіча, 153, «Прэстан маркет». Крыху нязвыклы знешні выгляд магазіна, калі вітрыны закрыты ад поглядаў з вуліцы, неонавае зялёнае святло шыльды, зручны падыход. Побач ахоўваемая бясплатная аўтастаянка. Унутры прасторнай залы мноства аддзелаў, ветлівыя работнікі магазінаў. А вось і секцыя з алкагольнымі напоямі, дзе сапраўды стаіць каньяк за 27 млн. 750 тысяч рублёў — у вялікай прыгожай каробцы...

— Ну, самой бутэлькі там няма, — смяецца генеральны дырэктар «Пэрстан маркета» Артур Галсцян, — каб выпадкова з ёй чаго-небудзь не здарылася, мы захоўваем каньяк асобна. Увогуле ж хачу сказаць, што гэты замежны напой — хутчэй частка інтэр'ера, бо нават фірма, якая давала яго нам на рэалізацыю, была ўпэўнена, што яго не купяць і на працягу года. Сапраўды, пакуль мы не прадалі ніводнай бутэлькі. Зрэшты, супермаркет працуе толькі чатыры дні. Ствараўся ж ён не як магазін для заможных пакупнікоў, а для сярэдняга спажыўца. Чаго варты толькі нязвыклы пакуль сервіс, калі пакупнік можа выйсці з магазіна з цялежкай на аўтастаянку, перакласці прадукт у легкавік, а цялежку пакінуць тут жа.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 5 ДЗЁН

Сталі вядомыя вынікі падпіскі на некаторыя рэспубліканскія перыядычныя выданні па стану на 1 снежня 1996 года. Так, тыраж **«Звязды» склаў пакуль 60.222** экземпляры, «Советской Белоруссии» — 216.466 экземпляраў, «Народнай газеты» — 165.163, «Белорусской нивы» і «Рэспублікі» — 64.779 і 62.090 экземпляраў адпаведна.

Нагадваем тым, хто не паспеў падпісацца на «Звязду» на I квартал ці паўгоддзе: падпіска працягваецца да 10 снежня. Спяшайцеся — вы не толькі будзеце мець штодзень самую свежую інфармацыю, але і зможаце ўдзельнічаць у звяздоўскай латарэі.

Падпіску можна аформіць на паўгода (тады, праслаўшы спецыяльны купон, вы зможаце стаць удзельнікам латарэі, галоўны прыз якой — конь з вупражжу). Кошт падпіскі на першае паўгоддзе — 83.400 рублёў.

Падпіску можна аформіць і на тры месяцы (41700 рублёў). Удзельнікі латарэі змогуць атрымаць у якасці прызоў тавары народнага спажывання, сярод якіх электраплуг, веласіпеды, тэлевізары, пральныя машыны, фотаапараты і г.д.

Нагадваем, што спецыяльны конкурс праводзіцца і для паштальёнаў, для якіх таксама прадугледжаны каштоўныя прызы: тэлевізар, пральная машына «Мара», веласіпед, а таксама бясплатныя пуцёўкі для аздараўлення і адпачынку дзяцей за мяжой.

*АКТУАЛЬНА*

## ВЫПЛАТЫ ПАВЯЛІЧАНЫХ ПЕНСІЙ ПАЧНУЦЦА ЎЖО 10 СНЕЖНЯ

**Як вядома, урад краіны прыняў пастанову аб павелічэнні з 1 студзеня наступнага года памеру мінімальнай заработнай платы. Гэтым жа дакументам устанаўліваецца, што пераразлік пенсій, вылічаных зыходзячы з новай мінімальнай зарплаты, павінен пачацца ўжо з 1 снежня. Наколькі павысяцца пенсіі і калі пенсіянеры змогуць атрымаць гэтыя грошы? Адказаць на гэтыя пытанні карэспандэнт БЕЛТА папрасіў міністра сацыяльнай абароны Вольгу ДАРГЕЛЬ.**

— Мінімальны памер пенсіі па ўзросту ў снежні складзе 195 тысяч рублёў, — паведаміла Вольга Даргель. — Але з улікам 50-працэнтнай надбаўкі, устаноўленай урадам, такая пенсія складзе 292 тысячы 500 рублёў. У параўнанні з папярэднім месяцам яна павялічыцца на 9,6 працэнта. Максімальная пенсія, якую атрымліваюць мужчыны з рабочым стажам 45 гадоў і жанчыны — 40 гадоў, павысіцца на 8,3 працэнта і складзе 672 тысячы рублёў.

У сярэднім пенсіі ў снежні павялічацца на 10 працэнтаў. У той жа час міністр падкрэсліла, што гэта не азначае аўтаматычнага павелічэння ўсіх пенсій на такую суму. У кагосьці прыбаўка складзе крыху больш чым дзесяць працэнтаў, у кагосьці менш — усе пераразлікі будуць праведзены згодна з заканадаўствам аб пенсіённым забеспячэнні. Акрамя таго, памеры надбавак да пенсій, якія атрымліваюць розныя катэгорыі — удзельнікі вайны, інваліды, ліквідатары аварыі на ЧАЭС і іншыя, з 1 снежня таксама вылічваюцца зыходзячы з новага памеру мінімальнай пенсіі па ўзросту.

Прэзідэнт краіны даў указанне пачаць выплаты новых пенсій не пазней чым 20 снежня. Аднак, зыходзячы са сваіх магчымасцей, Міністэрства сацыяльнай абароны прыняло рашэнне пачаць гэтыя выплаты ўжо з 10 снежня. Тым жа пенсіянерам, якія атрымалі пенсіі за снежань да гэтай даты, розніца будзе выплачана па дадатковых ведамасцях.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**



2—3 снежня ў сталіцы Партугаліі — Лісабоне — праходзіла сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў 54 дзяржаў—удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. У ёй брала ўдзел афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале за Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Літвы Альгірдасам Бразаўскасам.

## АДНЫМ СКАЗАМ

На 1 студзеня сёлетняга года ў сельскай мясцовасці функцыянавала 2214 **дзіцячых дашкольных устаноў.**

У параўнанні з 1991 годам **затраты на вытворчасць** рэалізаванай прадукцыі ў цэлым па краіне павялічыліся ў 17,3 тысячы разоў, а выручка — толькі ў 15,4 тысячы разоў, што і вызначыла рост прыбытку ўсяго ў 6,7 тысячы разоў.

У гэтым годзе ў рэспубліцы **рэалізавана лекаў** на 1 трыльён 300 мільярдаў рублёў.

З 1992 года з-за адсутнасці ў калгасаў і саўгасаў сродкаў на ўтрыманне дашкольных устаноў на вёсцы закрыта 545 **дзіцячых садзікаў.**

За апошні тыдзень восені ў рэспубліцы былі **зарэгістраваны 194 пажары**, у якіх загінулі 19 чалавек.

На сённяшні дзень у рэспубліцы **дзейнічаюць** 20 недзяржаўных і 39 дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў.

За апошнія два гады больш чым у два разы павялічылася колькасць спраў, якія расследуе КДБ: з**а 1993--1994 іх было 345,** у **1995--1996 -- 770.**

Апошнім часам агульны **прыбытак камерцыйных банкаў** рэспублікі не перавышае 200 мільярдаў рублёў у месяц.

## КАЛЯДНЫЯ ВАКАЦЫІ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ ПАЧЫНАЮЦЦА ДАТЭРМІНОВА

**Снежань сёлетняга года і студзень наступнага працоўныя Лідскага завода аўтобусаў «Нёман» правядуць па-за межамі прадпрыемства.**

Высакосны год для завода быў складаны. Як паведаміў галоўны інжынер прадпрыемства Яўген Мурашка, з 9 месяцаў «Нёман» працаваў толькі паўгода. Завод задавальняе патрэбы беларускага рынку. Але пры магутнасці 250 машын у год сёлета «Нёман» вырабіў усяго 30 аўтобусаў. Менавіта такую колькасць адзіны заказчык і пакупнік прадукцыі лідчан — Міністэрства транспарту і камунікацый здолела аплаціць.

Магчыма, выйсцем са складанага становішча стане сумесная вытворчасць аўтобусаў з Львоўскім заводам. Але перамовы, што вядуцца з кастрычніка гэтага года, абяцаюць быць доўгімі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**





## СЁННЯ Ў НАШАЙ ХАЦЕ СВЯТА!

**А сапраўды, чаму б вяскоўцам, якія кожны Божы дзень шчыруюць ад цямна да цямна на палетках, фермах, у майстэрнях, не сабрацца аднойчы ва ўласным клубе, каб паслухаць мясцовых спевакоў, патанцаваць. Так і вырашылі ў валожынскім калгасе імя К. Маркса, а яго праўленне да таго ж падрыхтавала лепшым работнікам падарункі, каб адзначыць вынікі сёлетняй працы.**

Вынікі на фоне агульных спраў у сельскай гаспадарцы рэспублікі былі зусім нядрэнныя. Гэтая гаспадарка не толькі занята вытворчасцю мяса, малака, караняплодаў, збожжа, але і плённа выкарыстоўвае магчымасці іх перапрацоўкі. Прадукты, прыгатаваныя па самай сучаснай тэхналогіі, прадаюцца ў вёсцы, у фірменных магазінах райцэнтра, Мінска. Усё гэта прыносіць добры прыбытак і яшчэ раз пацвярджае спрадвечную ісціну, што сапраўдны гаспадар не той, хто вырасціць, а той, хто ўсё гэта зберажэ і ўмела прадасць. У калгаса засталіся непарушанымі сувязі з шэфамі. Мясцовы лясгас, мінскі завод «Ударнік» таксама прыслалі на свята сваіх прадстаўнікоў, і прыбылі яны туды не з пустымі рукамі.

— Вёсцы трэба дапамагаць, — гэтая думка была галоўнай у выступленнях шэфаў.

Вясковае свята праводзіцца тут штогод.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

НА ЗДЫМКАХ: выступаюць мясцовыя таленты; намеснік дырэктара мінскага завода «Ударнік» Мікалай Слізкі перадае старшыні калгаса Яўгену Скрундзю бясплатна адноўлены пагрузчык.



# ДАСЛОЎНА

*Алег ЧУДНІКАЎ, начальнік Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі РБ*

## «Сродкі барацьбы з парушальнікамі Правілаў дарожнага руху разнастайныя. І сёння мы ў сілах утаймаваць самых злосных аўтамабільных хуліганаў»

**Не так даўно «Звязда» паведаміла сваім чытачам, што на іх тэлефонныя званкі і пісьмы праз супрацоўнікаў рэдакцыі гатовы адказаць начальнік ДАІ Рэспублікі Беларусь палкоўнік міліцыі Алег Аляксеевіч Чуднікаў. Як аказалася, сярод прыхільнікаў газеты шмат аўта- і мотааматараў, якія адгукнуліся на прапанову рэдакцыі і начальніка Дзяржаўтаінспекцыі. У наш адрас паступіла дзесяткі званкоў і пісьмаў з самымі рознымі пытаннямі: ад звычайнай цікаўнасці наконт нумарных знакаў да глыбокіх асабістых праблем, вырашыць якія часам не вельмі проста. Сёння мы прапануем вам азнаёміцца з матэрыяламі завочнай «прамой лініі».**



**— Скажыце, калі ласка, з якой мэтай прымаліся новыя Правілы дарожнага руху і чым яны адрозніваюцца ад ранейшых?**

*Васіль Пятровіч КАЗЮЧЫЦ, г. Мінск, пенсіянер.*

— Групай прафесіяналаў-спецыялістаў быў распрацаваны, а Кабінетам Міністраў Беларусі зацверджаны дакумент, якім вызначаны правілы дарожнага руху менавіта ў нашай рэспубліцы. Гэты дакумент не прэтэндуе на штосьці прынцыпова новае. Наадварот, распрацоўшчыкі пастараліся максімальна ўлічыць усё тое разумнае, што існуе і прымяняецца ў сусветнай практыцы. У прыватнасці, гэта патрабаванні Міжнароднай канвенцыі па дарожнаму руху і дапаўненні да яе, асобныя палажэнні Правілаў дарожнага руху краін СНД, Польшчы, Германіі.

У Правілах дарожнага руху закладзены новыя раздзелы, удакладнены фармулёўкі некаторых тэрмінаў і вызначэнняў, уведзены дадатковыя абмежаванні, якія ўплываюць на бяспеку руху. Я не маю магчымасці цяпер канкрэтызаваць усё. Але пры жаданні гэта можна зрабіць самому, параўнаўшы старую і новую рэдакцыі Правілаў. Акрамя таго, адрозненні публікуюцца ў «Звяздзе».

**— Прыходзіцца часта ездзіць праз Бабруйск у бок Парычаў і Калінкавічаў. Здзіўляе, што пасля Бабруйска сярод лесу амаль заўсёды стаіць міліцыянер з жазлом, але без нагруднага знака ДАІ. Побач — прыватная машына без якіх-небудзь знакаў міліцэйскай атрыбутыкі. Скажыце, ігнараваць мне патрабаванне міліцыянера ці не, калі ён мне ўказвае спыніцца ў цёмны час сутак?**

*Мікалай Уладзіміравіч, вадзіцель-прафесіянал.*

**— Паважаны Алег Аляксеевіч! Не так даўно ў Расіі прыняты закон, згодна з якім прыпыняць і правяраць аўтамабіль мае права толькі супрацоўнік ДАІ з нагрудным знакам, а не любы міліцыянер у форме, як у нас.**

**Пакуль, па сабе ведаю, спыняе той, каму ўздумаецца. Галоўнае, каб была форма. Дзякуй.**

*г. Баранавічы Брэсцкай вобласці, вул. Баранава. Лычкоўскі І. І.*

— У адпаведнасці з патрабаваннямі п. 3.3.3. Правілаў дарожнага руху вадзіцель транспартнага сродку абавязаны па патрабаванню работнікаў міліцыі (не толькі ДАІ) не толькі спыняцца, але і перадаваць ім для праверкі вадзіцельскія дакументы (незалежна ад часу сутак). За невыкананне патрабаванняў работнікаў міліцыі аб спыненні транспартных сродкаў прадугледжана адміністрацыйная адказнасць.

Больш таго, дзеючае заканадаўства дазваляе работнікам міліцыі за невыкананне іх патрабаванняў выкарыстоўваць для прымусовага спынення транспарту агнястрэльную зброю.

**— У мяне ёсць правы катэгорыі «С» на ваджэнне трактара. Дзесьці чуў, што можна пераздаць на катэгорыю «В» не неравучваючыся.**

*Дземідовіч Андрэй Васільевіч, в. Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.*

— І правільна чулі. Не патрабуецца дадатковай падрыхтоўкі асобам, якія маюць права на кіраванне трактарам і жадаюць атрымаць вадзіцельскае пасведчанне катэгорый «А» і «В».

У гэтым выпадку, пры пацвярджэнні факта кіравання транспартам, прымаецца практычны экзамен па гэтай катэгорыі.

**— Я маю права ўласнасці на палову аўтамабіля. Нядаўна ў Нясвіжскім раёне мяне прыпыніў паставы ДАІ і запатрабаваў даверанасць на права кіравання гэтым аўтамабілем. Чаму?! Ці маю я права, зыходзячы з права ўласнасці (раней такіх пытанняў да ДАІ не паступала)? Тэхпашпарт на машыну выпісаны не на маё імя, а на імя жонкі, таму што яна член гаражнага кааператыва. Але ж палова ўласнасці — мая. Проста ў мяне пакуль няма даверанасці.**

*Іван Аляксандравіч Санько, жыхар г. Мінска.*

— У гэтым выпадку даверанасць на права кіравання аўтамабілем неабходна мець абавязкова. Аднак яна будзе непатрэбна, калі вы атрымаеце натарыяльна заверанае пасведчанне аб праве агульнай уласнасці на аўтамабіль.

**— Добры дзень Алег Аляксеевіч!**

**Мы даўно хацелі да вас звярнуцца. Нас шэсць сем'яў. У сувязі са змяненнямі правілаў перавозкі дзяцей у нас узнікла вельмі складаная сітуацыя...**

**У нашым калгасе дзеці ходзяць у дзве школы. Адна палова — у г. п. Падсвілле, а другая — у вёску Каралевічы. Першую палову, што з цэнтра калгаса, возіць аўтобус, а нашых вазіла абсталяваная машына, якая ходзіць па рабочых. У гэтым годзе старшыня сказаў, што выйшла прадпісанне: дзяцей вазіць толькі на аўтобусе. А таму нашы дзеці, а гэта 10 чалавек, з якіх трое першакласнікаў, павінны хадзіць пешшу. І ў дождж, і ў холад абсталяваная машына абганяе малышоў, але не падвозіць. Нельга. І нікому няма справы ні да дзяцей, ні да бацькоў, ні да настаўнікаў. І мне прыходзіцца на свае страх і рызыку на старэнькім «Масквічы» вазіць усіх дзесяцярых дзяцей...**

**Скажыце, што нам рабіць, як дастаўляць дзяцей у школу?**

*З павагай мнагадзетная сям'я Лубчанкаў. (З пісьма Лубчанкі Анатоля Усцінавіча з в. Шарагі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці.*

— Паважаны Анатоль Усцінавіч, з аднаго боку, старшыня вашага калгаса мае рацыю. Не дапускаецца перавозіць дзяцей у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай і ў кузаве-фургоне.

Мне здаецца, для станоўчага вырашэння гэтага пытання вам неабходна калектыўна звярнуцца ў праўленне калгаса з просьбай аб выдзяленні для перавозкі дзяцей спецыяльнага аўтобуса.

А вось што датычыць перавозкі вамі на «Масквічы» дзесяцярых дзяцей, то гэта не толькі грубейшае парушэнне Правілаў дарожнага руху. Вы павінны разумець, якую велізарную адказнасць за іх здароўе і жыццё на сябе ўскладваеце.

**— Добры дзень, Алег Аляксеевіч!**

**У мяне ёсць праблема. Справа ў тым, што да свайго аўтамабіля я зрабіў прычэп (за горадам ёсць 4 соткі зямлі, і ён проста мне неабходны), паколькі купіць заводскі мне не па кішэні. Аднак не магу яго зарэгістраваць. Што мне рабіць?**

*З пісьма Шавяленкі Леаніда Іванавіча, 55 гадоў, г. Светлагорск Гомельскай вобласці.*

— У Дзяржаўтаінспекцыі г. Светлагорска вам неабходна атрымаць накіраванне ў лабараторыю аўтамабіляў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі для выпрабавання вашага прычэпа. Пры станоўчых выніках лабараторыя выдасць заключэнне, якое і паслужыць падставай для рэгістрацыі.

**— Паважаны начальнік ДАІ рэспублікі. Мой родны брат у гэтым годзе летам у Польшчы купіў мне машыну «Жыгулі». У яго быў замежны пашпарт, а ў мяне — не. І я думаў, што потым можна, як сваяку, аформіць на сябе. Але калі мы прыехалі разам у Гродна на мытню, то мне ў гэтым адмовілі. Сказалі, што трэба ехаць у Польшчу і там яе перапісваць. Так яна і засталася апісанай на брата. Пры рэгістрацыі ў Гродне мне ў выдачы даверанасці адмовілі. Вось і атрымліваецца, што я еду на сваёй машыне, якую купіў мой брат за мае грошы і плачу штраф...**

**Прашу растлумачыць гэта пытанне.**

*З пісьма Друшбальскага Э. М. г. Слонім Гродзенскай вобласці.*

— На жаль, пытанне крыху не па адрасу. Справа ў тым, што парадак, які прадугледжвае пэўныя абмежаванні па адчужэнню транспарту, у тым ліку і на выдачу даверанасцей, устаноўлены пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 41995, а не Дзяржаўтаінспекцыяй.

**— Паважаны Алег Аляксеевіч! Хачу праз газету задаць вам адно пытанне. Да якога часу ў Слуцку будзе тварыцца беззаконнасць: для грамадзяніна Усава* Мікалая Фёдаравіча законаў не існуе, яны пісаны, відаць, для іншых. Ён камерсант, забойца. Чатыры гады таму забіў на сваёй машыне чалавека і застаўся беспакараным. Цяпер водзіць свае аўтамашыны без пасведчання, таму што пазбаўлены яго, аднак на яго не звяртаюць увагі работнікі Слуцкага ДАІ.**

**Дарэчы, акрамя таго, што ён не мае вадзіцельскіх правоў, дык яшчэ кожны дзень п'яны за рулём. Прашу вас разабрацца. Ён ужо ўсім надакучыў.**

*(З пісьма грамадзян Слуцка Самусевіча, Цыбулькі і іншых.)*

— Канкрэтнае пытанне. Але, як вы разумееце, адразу штосьці канкрэтнае я адказаць не магу — трэба разабрацца. І адпаведнае даручэнне ўжо, лічыце, дадзена мною начальніку ДАІ Мінскай вобласці.

А ўвогуле вы закранулі балючую праблему дарожнага руху і, у першую чаргу, п'янства за рулём. Гэта якраз тое парушэнне Правілаў, міма якога не пройдзе, відаць, ніводны работнік Дзяржаўтаінспекцыі. Да гэтага дадам, што ў рэспубліцы, толькі за мінулы з пачатку года перыяд, супрацоўнікамі ДАІ было затрымана больш як 45 тысяч(!) вадзіцеляў, якія кіравалі транспартам ў стане алкагольнага ап'янення.

Дзякуй вам за пытанне, і, як я разумею, за пасільную падтрымку.

**— Вітаю вас, таварыш палкоўнік!**

**Як вядома, у новых Правілах дарожнага руху ёсць пункт 20.6, які абавязвае матацыклістаў рухацца з блізкім святлом у любы час сутак. А ці можа рухацца матацыкл з магутнасцю генератара 6 вольт 75 Вт з пастаянна ўключаным святлом, калі толькі на асвятленне патрабуецца 46 Вт, не ўлічваючы ўжывання току на работу рухавіка і зарадку акумулятараў батарэі? Маёй «Яве» ўжо 18 гадоў. У мяне ўзнікае пытанне, што рабіць. У старых Правілах 1987 года быў пункт 8.8, які абавязваў матацыклістаў рухацца з блізкім святлом. Праўда, потым быў дадатак: матацыклам з батарэйным запальваннем у 6 вольт дазвалялася адступаць ад пункта 8.8.**

**Я, вядома, не пісаў бы, калі б не прыходзілася плаціць 0,1 працэнта мінімальнай зарплаты ў якасці штрафу двойчы. Прычым абодва разы ў Рагачове.**

*З пісьма Стальмахова Віктара Міхайлавіча, в. Каманка Кармянскага раёна Гомельскай вобласці.*

— Праблема зразумелая. Аднак, калі матацыкл не ў стане задаволіць сучасныя патрабаванні па бяспецы дарожнага руху, то ён не павінен эксплуатавацца. У гэтай сітуацыі я бачу адзін выхад — перарабіць электраабсталяванне на 12 вольт.

**— Паважаны Алег Аляксеевіч!**

**Звяртаецца да Вас праз рэдакцыю газеты «Звязда» інвалід І групы, ветэран Узброеных Сіл Качук Мікалай Барысавіч у сувязі з бядой, якая абрушылася на мяне і маю сям'ю.**

**У сувязі з тым, што я абмежаваны ў перамяшчэнні, мой сын, грамадзянін Расіі, купіў у Літве патрыманы аўтамабіль 1983 года выпуску. Вёз яго праз Выбаргскую мытню Ленінградскай вобласці (адрас мытні: 188900, Ленінградская вобласць, г. Выбарг, вул. Чыгуначная, д. 9/15), заплаціў мытную пошліну і атрымаў пасведчанне ўвозу транспартнага сродку. Пры гэтым у сына забралі тэхпашпарт і рахунак-купчую (ксеракопіі маюцца). Я тэлефанаваў на мытню. Мне растлумачылі, што ўказаныя дакументы забралі законна, у адпаведнасці з расійскімі правіламі. Тут варта агаварыцца. Ні я, ні мой сын не мелі аўтамашыны. Акрамя таго, ён не мае вадзіцельскага пасведчання. Сын не адносіцца да ліку біснесменаў і камерсантаў і амаль год у Расіі не атрымлівае зарплату. Але, пазычыўшы грошай і наняўшы чалавека, ён перагнаў аўтамабіль у Мінск. Тут і пачаліся ўсе непрыемнасці. Сын хацеў перааформіць аўто на мяне. А мой сваяк па даверанасці мог бы мяне вазіць. Аднак, на жаль, у афармленні машыны на мяне ДАІ Мінска яму адмовіла. Спачатку сказалі, што патрэбны тэхпашпарт, а потым і ўвогуле сказалі, што аўтамабіль трэба гнаць зноў у Расію, у Санкт-Пецярбург, дзе прапісаны мой сын. Там яе паставіць на ўлік, атрымаць тэхпашпарт, а затым зноў прыгнаць у Мінск і тут ужо ставіць на ўлік, атрымліваць тэхпашпарт. Колькі гэта будзе каштаваць грошай, нерваў і часу! Усюды — тупік.**

**— Паважаны Алег Аляксеевіч! Прашу Вас дапамагчы. Можа, ёсць магчымаць у парадку выключэння аформіць гэту злашчасную машыну на мяне тут, у Беларусі. Спадзяюся на вашу міласэрнасць і дабрыню. З павагай Качук Мікалай Барысавіч і мой сын Качук Генадзь Мікалаевіч**

*(вытрымкі з пісьма).*

*г. Мінск, вул. Убарэвіча, 76/9.*

— Паважаны Мікалай Барысавіч, я ведаю аб Вашай праблеме са звароту да нас, ва ўпраўленне ДАІ, Вашага сына. Тым не менш, такія патрабаванні: у Рэспубліцы Беларусь рэгістрацыя транспартных сродкаў ажыццяўляецца за грамадзянамі толькі па месцы іх прапіскі. Ваш сын — грамадзянін Расіі. Паколькі мытныя дакументы аформлены на яго імя, ён абавязаны спачатку паставіць аўтамашыну на ўлік па месцы пражывання, г. зн. у Санкт-Пецярбургу, і толькі пасля гэтага вяртацца да пытання аб пераафармленні аўтамабіля на Вас.

**— Алег Аляксеевіч, ці маюць права работнікі ДАІ РБ забіраць вадзіцельскае пасведчанне ў грамадзян СНД і замежных вадзіцеляў?**

*Сяргей Табарын, г. Салігорск.*

— Пры парушэнні Правілаў дарожнага руху, за якія ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам можа быць накладзена адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ці пазбаўлення права кіравання аўтатранспартам, у вадзіцеля забіраецца вадзіцельскае пасведчанне на тэрмін спагнання.

У адпаведнасці з артыкулам 16 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь замежныя грамадзяне ці асобы без грамадзянства, якія знаходзяцца на нашай тэрыторыі, падлягаюць адміністрацыйнай адказнасці на агульных падставах. Такім чынам, мой адказ на Ваша пытанне станоўчы.

**— Таварыш начальнік ДАІ рэспублікі. Наколькі я памятаю, колькі існуе служба Дзяржаўтаінспекцыі, столькі і мусіруецца тэма хабарніцтва з боку работнікаў ДАІ. Маглі б вы пракаменціраваць сітуацыю вакол гэтай тэмы?**

*Іван Сяржук, г. Слонім Гродзенскай вобласці.*

**— Паважаны Алег Аляксеевіч. Я ўжо шмат гадоў пражыў на свеце, хоць вадзіцелем і не з'яўляюся. Аднак выдатна памятаю, як саюзнае начальства змагалася з хабарніцтвам. Колішні начальнік ДАІ МУС СССР спадар Піскароў правёў эксперымент: ад Масквы да Брэста былі накіраваны спецбрыгады супрацоўнікаў міліцыі, у задачу якіх уваходзіла спецыяльнае парушэнне ПДР. Членаў брыгады, якія рухаліся на аўтамабілі, даішнікі спынілі на 21 пункце ДАІ, з якіх на 19 узялі хабар, за што і былі пакараны. Чаму б і нам час ад часу не праводзіць такія эксперыменты?**

*Мікалай Аляксееў, г. Мінск.*

— Дзякуй за гэтыя пытанні. Сапраўды, нячыстыя на руку супрацоўнікі ў нашых радах сустракаюцца. Больш таго, і кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў, і Дзяржаўтаінспекцыі ведаюць аб гэтай балючай тэме і прымаюць самыя жорсткія меры па яе выкараненню. Існуе цэлы комплекс мерапрыемстваў па выяўленню супрацоўнікаў, якія вымагаюць і атрымліваюць хабар з вадзіцеляў транспартных сродкаў, у тым ліку практыкуюцца і аперацыі, падобныя да ўпамянёнай у пытанні Мікалая Аляксеева.

Разам з тым скажу, што эфектыўнасць ачышчэння нашых радоў ад несумленных супрацоўнікаў магла б быць значна вышэйшай, калі б нам у гэтым аказвалі дапамогу самі вадзіцелі. На жаль, многія з іх, імкнучыся пазбегнуць адказнасці за парушэнне Правілаў, лічаць за лепшае даць хабар, чым паведаміць аб несумленным супрацоўніку вышэйстаячым начальнікам.

**— Алег Аляксеевіч, не так даўно мяне напаткала вялікая непрыемнасць. Жонка памыла ў пральнай машыне вадзіцельскія дакументы на мае «Жыгулі». У выніку сцерліся ўсе пячаткі, хоць подпісы і фотаздымак засталіся нармальнымі. Скажыце, як мне атрымаць новыя дакументы: вадзіцельскае пасведчанне, тэхпашпарт і тэхталон.**

*Сяргей Збруеў, г. Гомель, вадзіцель з 10-гадовым стажам.*

— Выпадак Ваш сапраўды непрыемны, але не такі ўжо страшны. Проста неабходна звярнуцца ў рэгістрацыйна-экзаменацыйнае аддзяленне па месцы жыхарства з адпаведнай заявай. Для абмену вадзіцельскіх дакументаў трэба прадставіць на агляд транспартны сродак, асабістую картку вадзіцеля і медыцынскую даведку. Усе астатнія падрабязнасці — у РЭА ДАІ.

**— Чаму так дорага каштуе навучанне на аматарскую катэгорыю «В» і сама здача на вадзіцельскае пасведчанне?**

*Ігар Разанаў, г. Пружаны Брэсцкай вобласці.*

— Устанаўленне кошту падрыхтоўкі вадзіцеляў у навучальных арганізацыях не ўваходзіць у кампетэнцыю Дзяржаўтаінспекцыі. Што ж датычыць платы за прыём экзаменаў, то 10 тысяч рублёў за тэарэтычны і 20 тысяч — за практычны, на мой погляд, нельга назваць завышанай.

**— Паважаны Алег Аляксеевіч. Прабачце за пытанне аб хабарніцтве ў сістэме ДАІ. Мне часцяком прыходзілася разлічвацца з дарожнымі інспектарамі наяўнымі «зялёнымі» і «зайцамі» за розныя парушэнні. Скажыце, да каго я магу звярнуцца, каб засведчыць факт дачы хабару? Увогуле, ці ёсць якая-небудзь служба, дзе займаюцца вырашэннем указанай праблемы?**

*Леанід Свірыдаў, г. Брэст.*

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

# ТУРЭМНЫЯ АЎТОГРАФЫ ЯЗЭПА ЛЁСІКА

**Дакументы гэтыя, калі разважаць лагічна, не павінны былі захавацца да нашых дзён. Не было ніякага сэнсу чэкістам іх збіраць, тым больш што і адрасатам звароты арыштаванага Язэпа Лёсіка былі не асабліва патрэбны. Але, тым не менш, цудам уцалелыя дакументы дайшлі да нас, і сёння ўпершыню з імі знаёміцца беларускі чытач.**

Перад намі дзевяць турэмных аўтографаў выдатнага сына беларускай зямлі Язэпа Лёсіка. Дзевяць дакументаў, якія начыста абвяргаюць дагэтуль існуючае меркаванне аб адсутнасці фактаў супрацьдзеяння чэкісцкаму і камуністычнаму свавольству ў 30-я гады. Заявы і скарга Язэпа Лёсіка, які вядзе пасільную для яго барацьбу з адладжанай сістэмай падаўлення і знішчэння асобы, — сведчанне мужнасці і сілы волі чалавека, што ўсведамляе сваю асуджанасць. Адзначым: да таго ж знаходзіцца не на волі, а ў турме.

Усе аўтографы напісаны Я. Лёсікам простым алоўкам на розных кавалачках паперы, іншы раз аб'гортачнай, часам невялікага памеру, як, напрыклад, першы дакумент (13,5х10 см). Толькі адзін аўтограф — скарга Вярхоўнаму Пракурору СССР, — выканаены сінімі чарнілamі. Тэксты дакументаў лёгка чытаюцца, бо напісаны яны добра адпрацаваным, устойлівым почыркам настаўніка старой, яшчэ дарэвалюцыйнай школы.

Язэп Лёсік, які арыштоўваўся ўсімі ўладамі, пры якіх яму давялося жыць: і царскімі, і польскімі, і двойчы савецкімі, — на гэты раз абвінавачваўся па ўдзеле з 1935 года ў антысавецкай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі ў Саратаве, прысутнасці на нелегальных нарадах удзельнікаў гэтай арганізацыі (В. Ластоўскі, В. Дыла, Ч. Родзевіч і інш.), правядзенні сярод свайго акружэння антысавецкай нацыяналістычнай агітацыі, выказванні ў контррэвалюцыйнай паклёпніцкай форме сваіх меркаванняў аб неабходнасці барацьбы з савецкай уладай, кіраўнікамі ВКП(б) і савецкага ўрада, іншых злачынствах. У час апошняга арышту Я. Лёсік утрымліваўся пад вартай, у асноўным у турме № 2 аддзела месцаў зняволення УНКУС Саратаўскай вобласці, а таксама ў турме № 1 (верасень 1938 г., ліпень—жнівень 1939 г.) і турме Аткарскага раённага аддзялення УНКУС Саратаўскай вобласці.

16 жніўня 1939 года Я. Лёсік быў агледжаны ўрачамі турмы № 1, і яму былі пастаўлены дыягназ: кампенсаваны міякардыт — відаць, у сувязі са скаргамі арыштаванага на задышку, праяўленне дыхальнай недастатковасці і дрэнны кровазварот. Як высветліцца пасля смерці Я. Лёсіка, дыягназ яму ў 1939 г. быў пастаўлены няправільна: 1 красавіка 1940 года ён памёр ад паўторнага туберкулёзу лёгкіх, г. зн. у выніку туберкулёзнай інфекцыі — вынік праціглага знаходжання ў турмах і новага абвастрэння не выяўленай некалі хваробы. Пра гэта сведчыць акт судова-медыцынскай экспертызы ўрачоў бальніцы турмы № 2, дзе памёр Язэп Лёсік (гэты акт 21 красавіка 1940 г. быў накіраваны ў Маскву).

Прадстаўляемы дзевяць дакументаў Я. Лёсіка публікуюцца з захаваннем правапісу арыгіналаў. Нумарацыя дакументаў (№№ 1—9), якія даюцца ў храналагічным парадку, прастаўлена намі.

## № 1

*Начальніку IV Аддзела УНКУС Саратаўскай вобласці Голубеву[1].*
*Арыштанта Лёсіка І.Ю.*
*ЗАЯВА*

*Следчы Манохін[2] сказаў мне звярнуцца да Вас з просьбай затрабаваць мае грошы з Аткарскай турмы. Таму асмельваюся яшчэ раз прасіць Вас зрабіць належнае распараджэнне адносна грошай.*

*20.Х. [1938 г.] І. Лёсік.*

## № 2

*Начальніку IV-га Аддзела УНКУС Саратаў[скай] вобласці Голубеву*
*Падследчага зняволенага Лёсіка І.Ю.*
*ЗАЯВА*

*Пратакол дазнання, складзены следчым Беневеленскім[3] быццам бы «з маіх слоў», уяўляе сабой выдумку следчага нічым неабгрунтаваную, а таму я здымаю свой подпіс пад гэтым пратаколам, які, па заяве начальніка аддзялення Ішэўскага[4], з'яўляецца чарнавіком і падлягае зьмяненню, выпраўленню і стылырэдакцыі.*

*Гэтую заяву прашу прыкласці да маёй справы як дакумент, які адвяргае памянуты пратакол, напісаны не на падставе маіх пісьмовых паказанняў.*

*10.1.39 г. І. Лёсік.*

## № 3

*Начальніку Аддзялення Ішэўскаму В.Ф.*
*Падследчага зняволенага Лёсіка І. Ю.*
*ЗАЯВА*

*Пратакол дазнання, складзены следчым Беневеленскім быццам бы «з маіх слоў», уяўляе сабой нічым неабгрунтаваную выдумку следчага, а таму я здымаю свой подпіс пад гэтым пратаколам, які, па Вашай заяве, з'яўляецца чарнавіком і падлягае выпраўленню, змяненню і стыльрэдакцыі.*

*Гэтую заяву прашу прыкласці да маёй справы як дакумент, які цалкам адвяргае памянуты пратакол дазнання, напісаны не на падставе маіх пісьмовых і вусных паказанняў.*

*10.1.39 г. І. Лёсік.*

## № 4

*Пракурору Спецкалегіі Саратаў[скага] Абласнога Суда зняволенага Лёсіка І. Ю.*
*ЗАЯВА*

*У студзені г.г. следчы Беневеленскі атрымаў на маё імя па пераводу з Аткарска 25 рублёў. Пераводны бланк ён аддаў мне тады ж, а грошы дагэтуль не атрыманы, нягледзячы на заявы мне і турэмнай адміністрацыі. Прашу высветліць, куды падзеліся мае грошы.*

*18.III.39 г. Лёсік.*
*Кам.[ера] № 90.*

## № 5

*Начальніку 1-га Спецаддзела УНКУС Сарат.[аўскай] вобласці.*
*Абвінавачваемага па 58 арт. п.п. 10 і 11 Лёсіка Іосіфа Юр'евіча*
*ЗАЯВА*

*Справа мая слухалася ў Аткарску і адкладзена для дасследства.*

*1). Прашу запатрабаваць з Камышынскага УНКУС копію пастановы Прэзідыума ЦВК СССР аб маёй амністыі ў канцы 1933 год.[а] У г. Камышыне я адбываў адміністратыўную ссылку з палавіны 1931 г. па 1933 г.*

*2). Прашу прыняць маю заяву аб тым, што я пад судом не быў, таму што адміністратыўная ссылка не ўяўляе судзімасці.*

*3). Прашу выклікаць мяне на допыт для дачы паказанняў па маёй справе.*

*1939 г. 25.V. Лёсік.*

## № 6

*Спецпракурору Саратаўскай вобласці.*
*Абвінавачваемага па 58 арт. п.п. 10 і 11 Лёсіка Іосіфа Юр'евіча*
*ЗАЯВА*

І пісаў Вам заяву 7-га мая г.г.[5], але мне дагэтуль не паведамілі, ці накіравана яна па адрасу. Таму зноў прашу — 1) Запатрабаваць з Камышынскага УНКУС копію пастанов[ы] Прэзідыума ЦВК СССР аб маёй амністыі ў канцы 1933 г. У г. Камышыне я адбываў адміністратыўную ссылку з палавіны 1931 г. па 1933 г. 2) Прашу прыняць маю заяву аб тым, што я не быў судзімы і да с[ацыял]-д.[эмакратычнай] арганізацыі не належаў, а меў зносіны ў 1904 г. з Клінцоўскай арганізацыяй у Чарнігаў.[скай] губ. 3) Прашу паскорыць маю справу дасследствам.

25.V.39 г. Лёсік.

## № 7

*Начальніку 1 спецаддзела Абвінавачваемага па 58 арт. п.п. 10 і 11 Лёсіка Іосіфа Юр'евіча*
*ЗАЯВА*

*Прашу запатрабаваць з Камышынскага УНКУС копію пастановы Прэзідыума ЦВК СССР аб маёй амністыі ў канцы 1933 года. У г. Камышыне я адбываў адміністратыўную ссылку. Пішу другі раз, бо не ўпэўнены, што мая першая заява накіравана па адрасу. У пачатку і ў канцы мая я пісаў заявы на імя спецпракурора, але з УРЧ[6] мне паведамілі пісьмова, што заявы мае да іх не паступалі.*

*19.VI.39 г. Лёсік.*

## № 8

*Вярхоўнаму Пракурору СССР.*
*Падследчага зняволенага, б.[ылога] выкладчыка Аткарскага педвучылішча, Лёсіка Іосіфа Юр'евіча*
*СКАРГА*

*Мяне абвінавачваюць у тым, што быццам бы я належаў да выкрытай і ліквідаванай у Саратаве беларускай нацыянал-дэмакратычнай групы, якая складалася разам са мной з трох асобаў — Ластоўскага, Дылы і мяне. Абвінавачанне грунтуецца на тым, што я ў 1935 годзе быў на абедзе ў Ластоўскага, асуджанага ў 1938 г. тройкай. На гэтай падставе быў складзены пратакол аб тым, што на абедзе быццам бы мы раіліся аддзяліць Беларусь ад СССР і прымусілі мяне падпісаць гэты пратакол. Таксама мяне прымусілі напісаць уласнаручныя паказанні па падрыхтаваных пытаннях, дзе я абгаварыў сябе, прыпісваючы сабе ўсё тое, у чым абвінавачвалі беларускіх нацыянал-дэмакратаў у 1930 г., за што яны былі высланы ў абласныя гарады РСФСР. Арыштавалі мяне ў Аткарску 25 чэрвеня 1938 г., а абвінавачанне прад'явілі ў Саратаве спачатку па п. 10—58 арт. 7-га снежня, а потым, праз некалькі дзён пасля заканчэння следства, 5 сакавіка 1939 г., па п. 11—58 арт. 8-га лютага 1939 г. у прысутнасці спецпракурора Багачова ад мяне патрабавалі пацвердзіць пратакол і паказанні. Я адмовіўся пацвярджаць выдумкі следчых.*

*З такім матэрыялам мяне аддалі пад суд. Суд адбыўся 15-га красавіка 1939 г. у г. Аткарску. Пасля допыту мяне і сведак Абл-суд вынес рашэнне перадаць справу на дасследства. Праз 2,5 месяцы мяне выклікалі і сказалі, што дасследства не будзе і далі падпісаць пратакол аб заканчэнні дасследства, а на маё пытанне: што будзе далей, следчы сказаў, што справа зноў пойдзе ў Аблсуд з ранейшым матэрыялам. А гэта значыць, што справа мая зноў пойдзе на дасследства.*

*Справа ў тым, што пасля маёй адмовы пацвердзіць пратакол, мне пагражалі пасадзіць на 20 сутак у карцэр і пратрымаць два гады пад следствам. Цяпер я бачу, што гэтая пагроза трымаць 2 гады пад следствам ператвараецца ў сапраўднасць. Таму прашу Вас, гр.[амадзянін] Вярхоўны Пракурор, зрабіць распараджэнне аб тым, каб мяне ці судзілі ці вызвалілі, а не трымалі на дасследстве, якога не рабілі, вось ужо чацвёрты месяц, не аб'яўляючы, калі ж будзе суд. Я сяджу ўжо ў турме 14 месяцаў, з 25.VI.38 г. і ніякай віны за сабой не адчуваю, акрамя таго, што быў у адміністратыўнай ссылцы, але [у] 1933 годзе амніставаны Прэзідыумам ЦВК СССР.*

*22.VII.39 І. Лёсік.*

## № 9

*У Асобую Нараду пры НКУС у Маскве Зняволенага ў Саратаўскай турме Лёсіка Іосіфа Юр'евіча*
*ЗАЯВА*

*15-га красавіка б/года я судзіўся Абласным судом у г. Аткарску разам з незнаёмай мне жанчынай, якая, як высветлілася на судзе, ведала мяне як настаўніка ў Мінску гадоў дзесяць—дваццаць таму назад[7].*

*Пасля судовага следства суд пастанавіў накіраваць справу на дасследства. Праз 2,5 месяцы мне аб'явілі, што ніякага дасследства не будзе, а буду судзіцца зноў па старых матэрыялах. Я стаў чакаць суда. Праз 1,5 месяца мне аб'явілі пад распіску, што справа мая перадаецца на суд у Асобую Нараду, а 3-га лістапада зноў аб'явілі пад распіску, што справа мая накіравана ў Асобую Нараду.*

*Значыцца, Асобая Нарада будзе судзіць мяне па тых матэрыялах, якія Аблсуд знайшоў недастатковымі для асуджэння, бо на судовым следстве высветлілася, што віны за мной ніякай няма і што трымаюць мяне ў турме таму, што 10 гадоў назад я быў высланы з Мінска ў г. Камышын па справе беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Матэрыялы ж, па якіх я аддаваўся пад суд, складаюцца з пратакола ад 16-га жніўня 1938 г., складзенага следчым і мной апрацаванага, і маіх уласнаручных паказанняў, напісаных па прымусу, аб чым мной падрабязна расказана на судзе. У гэтых паказаннях я прыпісваў сабе тое, у чым абвінавачвалі беларускіх нац.-дэмакратаў у 1930 годзе, увязваючы гэта для праўдападобнасці з бягучай работай у педвучылішчы ў Аткарску.*

*Калі я ўтрымліваюся ў турме пасля суда таму, што быў дзесяць гадоў таму назад высланы з Беларусі, дык пасля 18-ці месячнага турэмнага зняволення няма палітычнай неабходнасці ў маёй далейшай турэмнай ізаляцыі, таму што я дастаткова ўжо пакараны за мінулае. Таму прашу мяне вызваліць, бо я не менш савецкі чалавек, чым большасць нашага насельніцтва.*

*27.ХІ.39 г. Лёсік.*

І ўсё ж цяжка і, як аказалася, безнадзейна хворы, ні ў чым не вінаваты Я. Лёсік быў асуджаны 31 сакавіка 1940 года Асобай Нарадай пры НКУС СССР «за антысавецкую агітацыю» да зняволення «у папраўча-працоўны лагер тэрмінам на пяць гадоў, лічачы тэрмін з 25 чэрвеня 1938 года». Пакаранне ён павінен быў адбываць у адным з аддзяленняў Вятлага НКУС СССР. Але пра апошняе, гэтак жа, як і пра несудовы прыгавор, ён не даведаўся.

Рэабілітаваны Я. Лёсік па Саратаўскай крымінальнай справе 8 сакастрычніка 1958 года. У гэты дзень Прэзідыум Саратаўскага абласнога суда пад старшынствам Н.П. Шаўчэнкі вынес пастанову аб адмене рашэння Асобай Нарады пры НКУС СССР ад 31 сакавіка 1940 года ў адносінах да Я. Лёсіка і спыненні справы вытворчасцю за недаказанасцю абвінавачвання.

**ЗАЎВАГІ:**

**1. Голубеў — начальнік 4-га аддзела Упраўлення дзяржаўнай бяспекі (УДБ) Саратаўскай вобласці, лейтэнант дзяржбяспекі.**

**2. Манохін — памочнік начальніка 3-га аддзялення 4-га аддзела УДБ, сяржант дзяржбяспекі.**

**3. Правільна — Беневоленскі — оперупаўнаважаны 4-га аддзела УДБ, потым выконваючы абавязкі старшага оперупаўнаважанага 2-га аддзела УДБ, сяржант дзяржбяспекі.**

**4. Ішэўскі В.Ф. — начальнік 2-га аддзела УДБ, лейтэнант дзяржбяспекі, потым старшы лейтэнант дзяржбяспекі.**

**5. Заява ад 7 мая 1939 г. не знойдзена.**

**6. УРЧ — учотна-размеркавальная часць.**

**7. Размова ідзе пра Бібіла Юлію Восіпаўну, 1897 г.н., ураджэнку м. Поразава Гродзенскай губерні, беларуску, беспартыйную, у мінулым — члена партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў; да арышту 22 жніўня 1938 г. — майстрыха арцелі «Каруначніца». Пражывала разам з маці ў Саратаве, па вул. Камунарнай, 35, кв. 8. 27 лістапада 1939г. крымінальная справа ў адносінах да Ю.В. Бібіла была спынена, а 28 лістапада яна вызвалена з турмы № 2 аддзела месцаў зняволення УНКУС.**

**ІЛЮСТРАЦЫІ:**

**1. Апошняя фатаграфія. 1938 г.(?)**

**2. Яшчэ адна нечаканая архіўная знаходка. 29 лістапада 1938 г.**




**Мікалай ІЛЬКЕВІЧ,**
**супрацоўнік Федэральнай службы бяспекі Расіі.**
*г. Смаленск*

**(Спецыяльна для «Звязды».)**

# РАБЫНЯ, ДЫ НЕ ІЗАЎРА

**Аб гэтым неяк неахвотна пішуць і гавораць. Сапраўды, тэма для нас, беларусаў, не зусім прыемная. Вось таму і захацелася расказаць, як месяц я была амаль рабыняй, ды толькі не Ізаўрай. Жыву я ў Кобрыне. Беспрацоўная, але добрая швачка. Прычым, што мне вельмі дапамагло, працавала некалі, як кажуць, «на патоку».**

Дык вось, абставіны склаліся так, што я атрымала магчымасць з'ездзіць у Польшчу на заробкі, замежны пашпарт у мяне быў. Трапіла я туды са знаёмымі. Але, аказваецца, ёсць і больш просты шлях. Ваўчэр каштуе зусім няшмат, некалькі долараў на электрычку — вось і ўсё. А знайсці работу дапамагаюць вадзіцелі нашых тураўтобусаў: яны выступаюць у ролі гэтакіх вярбоўшчыкаў добраахвотных рабоў. Можна знайсці сабе месца, пахадзіўшы ў Варшаве па кірмашы, пытаючы ў крамах. Адным словам, работа — не самая галоўная — праблема, калі ты добрая швачка, ну, а на краўцоў дык і попыт ёсць.

Працаваць давялося мне ў Лодзі ў так званым закладзе — кааператыве па пашыву адзення.

Ужо праз некалькі дзён я зразумела, што ён напалову падпольны. Днём працавалі польскія швачкі, ноччу — мы.

Гаспадар захоўваў усе меры перасцярогі: да месца работы і жыцця на гэты месяц я ехала, лёгшы ў аўтамабілі гаспадара на сядзенне. Па прадукты ў крамы хадзіла наша гаспадыня. Ды што там, тыдзень давялося праседзець у хляве, бо была небяспека нечаканай праверкі. Тут, аказваецца, вельмі любяць, як кажуць, «залажыць» суседа. Што і здараецца, таму перасцярога вельмі вялікая.

Жыццё несалодкае. Па-першае, пад замком, па-другое — інтэнсіўная, ледзь не знясільваючая праца. Ноччу пашыў, з раніцы пачынаем наклейваць і нашываць этыкеткі самых разнастайных заходнееўрапейскіх фірмаў, пакуем прадукцыю. Згатавалі паесці — і ў ложак, бо да начной змены засталося зусім няшмат часу.

Нам трапіўся добры гаспадар, ды і гаспадыня таксама. Хоць гэта аблягчала існаванне. А, як расказвалі вопытныя сяброўкі, сустракаюцца гаспадары такія, што ўся работа ператвараецца ў суцэльны здзек. Легендай стала пані Ірэна. Яна некалі жыла таксама ў Кобрыне, шмат гадоў назад выйшла замуж за паляка, цяпер трымае вялікі заклад. Дык там штрафы за ўсё: за паламаную іголку, за тое, што спыніў машыну. Дзяўчаты расказвалі, што налаўчыліся запускаць машыну вяроўкай, каб тым часам крыху падрамаць.

Адно прыемна ўразіла ў арганізацыі справы. Па-першае, існуе вельмі дакладнае размежаванне і ланцужок: матэрыял—фарбаванне—раскрой—пашыў—продаж. Уначы мы пашылі прадукцыю — у чатыры гадзіны яна ўжо на кірмашы ў Варшаве. А на наступны дзень у Брэсце. Тут не тое што чуйна, а звышчуйна адсочваюць попыт. Толькі-толькі тавар перастаў «ісці» — паступае каманда «стоп».

Я на працягу месяца шыла сарафаны, курткі, вятроўкі. Машыну з аднаго віду прадукцыі на другі можна перавесці за паўгадзіны. Машыны, праўда, самага высокага класа. Але мы асвоіліся хутка. І працавалі выдатна. Таму што гаспадар хутка звольніў швачак-палячак і мы размеркаваліся на тры змены. Яму выгадна: нам ён і плаціў менш, і работа ішла спарней.

Працуюць у закладах у асноўным беларускі ды ўкраінкі, рускія не сустракаюцца. Але самае цікавае тое, што шылі мы тавары, якія цалкам ішлі на Беларусь.

Я, напрыклад, свае сарафаны бачыла ў Брэсце. Чаму б у нас не арганізаваць такую вытворчасць? Наш гаспадар расказваў, што ён спрабаваў адкрыць прадпрыемства на Беларусі, ды дзе там.

Але гэта ўжо іншая размова. Я ж раскажу, як выбіралася з Польшчы. Нас папярэджвалі, што зробленыя грошы (за месяц гэта некалькі соцень долараў: велічыня заробку залежыць ад многага — на каго працуеш, як працуеш і г.д.) можна пакінуць і ў Польшчы.

Тут дзейнічае рэкет, ды шмат і адзіночных рабаўнікоў. Я пераканалася ў гэтым сама: сярод Варшавы, у пешаходным пераходзе, у мяне вырвалі сумачку, вырвалі два падлеткі. Я супраціўлялася, у руках засталася толькі ручка. І ніхто са шматлікіх прахожых нават увагі на гэта не звярнуў. Добра, што асноўныя грошы былі ў іншым месцы.

Спытаеце, ці паеду туды яшчэ раз? Вельмі не хочацца. Але, напэўна, паеду. Нягледзячы ні на што, там ёсць заробак. Там жа працуюць тысячы беларусаў на самых разнастайных работах. Усе яны едуць па ваўчэрах у турыстычныя паездкі на 15 дзён. А застаюцца і на месяцы, і на гады. На мяжы заўсёды можна адкупіцца.

**Ганна С.**

г. Кобрын.

# ШПІТАЛЬ

**Як і ў дарозе, добра думаць на бальнічным ложку. Калі ўжо нічога не баліць, ніхто не турбуе, а да канчатковага прыпынку — выпіскі — процьма часу. Думкі, праўда, лезуць у галаву самыя нечаканыя, наскокваюць адна на адну, як мікробы пад мікраскопам. Таму ў гэтых радках не трэба шукаць лагічна пабудаванай лініі. Тут, як сказалі б расійскія тэлежурналісты, рэпартаж ні аб чым.**

•

ДА МЯНЕ НАВЕДВАЛЬНІКІ. Што за дзіва? Ціхі ж час, і ў аддзяленне не прашмыгне нават мыш. Тым не менш мне гавораць, каб я выйшаў з палаты. Просіць не хто-небудзь, а сама старшая медсястра. А наведвальнікі чакаюць маю персону ў святая святых — у кабінеце загадчыка аддзялення.

Вось не думаў, што сціплая асоба захварэўшага карэспандэнта можа быць удастоена такога гонару: праведаць мяне прыйшлі... чыноўнікі. Медыцынскія.

Павінен агаварыцца, што бальнічны стаж у мяне даволі значны. За няпоўныя два гады прайшоў тваравую хірургію, процітуберкулёзны дыспансер і, нарэшце, шпіталь, але падобных знакаў увагі ад высокага медкіраўніцтва прымаць раней не даводзілася.

Нонсенс растлумачыўся невялікім рэпартажам у «Звяздзе» за 27 верасня пад загалоўкам «Страціць прытомнасць». Дакладней, неабходнасцю адрэагаваць на публікацыю. Таму што мэр Магілёва Дзмітрый Савіцкі аднавіў прынцып: кожную крытычную заўвагу прэсы браць на кантроль і прымаць адпаведныя меры. Здагадваецеся, што візіцёраў цікавіў не столькі я, колькі не трапіўшыя ў друк дэталі, каб было каго пакараць і скласці паперу належным чынам.

Госпадзі, ну чаму мы такія крыважэрныя! Хіба тут справа ў канкрэтыцы? Справа ў агульным парадку рэчаў, якія датычаць не аднаго толькі рэгіёна рэспублікі. Паездзіць мне давялося нямала, карыстаючыся ў асноўным дызель-паяздамі, электрычкамі і агульнымі вагонамі цягнікоў, так што магу сцвярджаць: у праваднікa не тое што валідолу — часам звычайнай вады не знойдзецца. Пра гарадскі пасажырскі транспарт маўчу.

Прадбачу заўвагу: хворы — сядзі дома. Але ж каб ведаў, дзе ўпадзеш, саломкі падаслаў бы. Сур'ёзныя хваробы спасцігаюць нярэдка нас гэтак жа нечакана, як удар маланкі. Валера, які ляжаў са мной у палаце, расказваў: «Прыйшоў на работу ў гараж, адчуваю, што «пацягнула» нагу. Мне б не рухацца, пасядзець, прыняць што-небудзь ад ціску. Адкуль жа я ведаў, што так набліжаецца інсульт? «Хуткую» выклікалі, калі страціў прытомнасць. Левы бок паралізавала. Адняліся рука і нага».

Ён не ведаў, але калі ў тым гаражы не было штатнага медработніка, дык нехта ж павінен валодаць хаця б «лікбезам» па медыцыне. Скажам, загадчык, пастаўлены над людзьмі і адказны за іх. Яшчэ чаго захацелі.

А праваднікі гэтым «лікбезам» валодаюць? А кандуктары і вадзіцелі грамадскага транспарту? Нарэшце, пастаўя міліцыянеры з рацыямі і гумавымі дрынамі, але без ампулы нашатыру?

— Гэта амерыканскія паліцэйскія могуць роды прымаць, — гаварыў мне прадстаўнік станцыі «хуткай дапамогі». — Нашы, на жаль, такіх акадэмій не канчаюць.

Дарэчы, пра «хуткую». У Магілёве размешчана яна за чыгуначным вакзалам. На яе работнікаў, калі не паспелі да хворага за 20 хвілін, наракаць беспадстаўна. Тады якая гэта хуткая? Служба аховы (маёмасці) прыбывае да месца здарэння за 3 хвіліны, бо ў міліцыі райаддзелы, у аддзелах — апорныя пункты, а аператыўная ахова здароўя чамусьці адна — гарадская. Таму і бегаюць дабітыя «хуткія» з аднаго канца горада ў другі, а гэта дзесяткі кіламетраў.

•

Былі, вядома, у мяне і неафіцыяльныя наведвальнікі. Як і ў таварышаў па няшчасцю. Кожны дзень у палату на восем ложкаў нехта прыходзіў. Абавязкова з торбай ежы. Бедныя халадзільнікі. Яны літаральна ламіліся ад розных ласункаў, і персанал пачынаў раніцу з рэвізіі маразільных установак: псуюцца далікатэсы, а, крый Божа, санстанцыя.

Усё з'ядаць мы, вядома, не паспявалі, бо які там у дахадзяг апетыт. Гэтыя прысмакі, як і чалавечую ўвагу, нам бы раней, яшчэ здаровым. Тады, я ўпэўнены, працэнтаў на 90 урачам не было б каго лячыць. Бо пацыентаў пастаўляюць зараз не варожыя кулі, а стрэсы, павышаныя псіхаэмацыянальныя нагрузкі.

Старшы прапаршчык, як прыйдзе ў курылку, пачынае адну і тую ж гісторыю. Пра тое, як дачка «ўладкавала» яго ў «псіхушку». Чалавек дагэтуль не можа супакоіцца. Не можа ўцяміць, як такую подласць магла зрабіць родная крывінка.

Калі верыць расказчыку, канфлікт паміж бацькам і дачкой адбыўся з-за кватэры. Дачка, карыстаючыся службовым становішчам (працавала нейкім клеркам у медыцыне), падпільнавала зручны момант і выклікала санітараў з псіханеўралагічнага дыспансера. Бацька збіраўся класціся ў бальніцу, пакаваў неабходныя прыналежнасці, таму «клопат» дачкі не выклікаў падазрэння. Наіўны, ён вырашыў, што гэта такі зараз сервіс, і сеў у машыну з дужымі хлопцамі. Так і стаў «дурнем».

Верыць яму можна. Паводле меркавання спецыялістаў, псіхічныя адхіленні можна выявіць у кожнага другога нашага грамадзяніна. Усе хваробы — ад нерваў, пра нервовыя што і казаць.

Вярнуўшыся праз тры тыдні дамоў, прапаршчык адчыніў кватэру і ў яго ледзьве не адваліўся язык. На ложку — не чакала такога хуткага вяртання бацькі — ляжала дачка ў абдымку з кавалерам. Вось у чым справа! Заkаханым патрэбна была хата для адзіноцтва ўдваіх. А бацька перашкаджаў. Па-руску «мешал». Адсюль «помешательство» — хвароба, якую ўмела выкарыстоўваюць спрытныя свякі, выконваючы закон Дарвіна.

Гэта, вядома, крайні выпадак. Але ж даводзяць да бальнічнага ложка нярэдка блізкія. Лаянкай, прыдзіркамі, здрадамі і г. д. Потым шкадуюць. Носяць перадачкі.

Увогуле, калі бальніца — перавалачны пункт паміж жыццём і смерцю, то могілкі гэты цынізм (да слова) ілюструюць найбольш яскрава. Нябожчыку купляюць новы касцюм, якога так нехапала яму жывому, ды яшчэ нагавораць столькі кампліментаў, колькі чалавек не чуў за ўсё жыццё.

•

Жыццё з вострымі вугламі. Як калоны ў новым корпусе Магілёўскага шпіталя для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны. Гэты корпус чамусьці спраектавалі так, што ўвесь першы паверх на падпорках. Прамавугольнай формы. Зроблена нібы спецыяльна. Каб паздзекавацца са старых, якім вельмі проста згубіць раўнавагу і ўдарыцца галавой аб востры вугал. Затое прыгожа. Падобна на санаторый.

Без іроніі, умовы тут сапраўды санаторныя. Залы для заняткаў аздараўленчай фізкультурнай, хваёвыя і жамчужныя ванны, кіслародныя кактэйлі... Ёсць кіназала (з-за адсутнасці грошай фільмы, праўда, не дэманструюцца), бібліятэка. Можна купіць свежую газету.

І ўсё ж, як бы жорстка гэта ні гучала, час падобных шпіталяў мінае. Тым, хто ваяваў, даўно за семдзесят. Улічым інваліднасць гэтых людзей. І ўявім, як будзе адпавядаць сваёй назве гэтая увогуле прэстыжная ўстанова гадоў праз дзесяць. Ужо зараз у старым корпусе ляжаць у асноўным не былыя воіны, а, скажам так, абы-хто, у тым ліку і ваш пакорны слуга. Частку памяшканняў арандуе псіхдыспансер, размешчаны па суседству. Бываюць канфлікты і нават сутычкі каля адзінага на ўвесь шпіталь спраўнага таксафона. Сувязісты ўсё эксперыментуюць, якім чынам знайсці вартую замену колішнім «двушкам». Уводзяць то жэтоны, то карткі. Не ўлічваюць, аднак, талент народа. Не буду выдаваць «сакрэты» каб, моцна не пацярпелі сувязісты. Фінансава. Узамен гэтага прашу прыняць маю прапанову: вярнуцца да ранейшай, бясплатнай практыкі, асабліва ў бальніцах, а грошы (капейкі!) пашукаць у іншых крыніцах. Бальніцы выдзяляю таму, што, скажам, у Магілёве размешчаны яны, як правіла, на ўскраінах горада, дзе або зусім няма аддзяленняў сувязі, або працуюць яны толькі да 16 гадзін.

І хацеў бы схадзіць, ды нельга: ціхі час. А ў першай палове дня хвораму за вароты бальніцы не ўцячы.

•

Карыстаючыся выпадкам, выказваю падзяку загадчыцы 6-га аддзялення А. І. Міларадавай і ўсяму калектыву за выздараўленне і міжвольную дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага матэрыялу.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА,**
**уласны карэспандэнт «Звязды».**

*ПРА НАС*

# Аб новым паліто

**З адной маёй знаёмай здарылася такая гісторыя. Яна купіла паліто. Ва ўсіх адносінах выдатнае.**

**Яе муж апошнія паўгода стаў прыстойна зарабляць. І вось яна пайшла і купіла паліто. За мільён. Не капіла, не адкладвала. Атрымала зарплату і купіла. І была зусім шчаслівая. Першыя тры дні.**

Потым адчула нейкую нязручнасць. Напрыклад, у яе на рабоце — пераважна адзінокія жанчыны. Ёсць маці-адзіночкі. У іх кантора — перакладваюць паперы. Тыпу бюро па інвентарызацыі. Зарплата — самі разумееце.

Дапусцім, нехта купіў спадніцу. Гэта абмяркоўваецца прыкладна тыдзень ва ўсіх аддзелах. І вось уявіце: прыходзіць у гэты «заасад» такая ж, але ў паліто за мільён. Дэтальны агляд, дзесьці нават непрыкрытая зайздрасць і гэтак далей.

Знаёмая расказвае: адразу гэта адчула. Кажа, стала сорамна. Быццам украла. А гэта проста муж зарабіў. Я яго таксама ведаю. Працавіты мужык, упарты. Такія рана ці позна свайго дабіваюцца. Ну і добра, але ў жонкі — праблемы.

Яна, ведаеце, адчула сябе заможнай пані. Шчаслівы білет выпаў. Для яе цяпер пакута: слухаць штодзённыя скаргі калег на адсутнасць грошай. І лавіць позіркі, за якімі ясна чытаецца: чым я горшая за цябе? А то і проста шчырая і шчодрая нянавісць.

Карацей кажучы, поўная жыццёвая драма...

Апрача таго, знаёмая пачала заўважаць: у транспарце стараецца трымацца далей ад людзей у бруднай вопратцы. А мужыкоў з цыгарэтай прама ўзненавідзела. Могуць, ведаеце, прапаліць паліто...

Я прыгадваю сваіх суседзяў справа. Яны заняліся бізнесам. Натуральна, з'явіліся грошы. А жаданне бачыць суседзяў — знікла. Бывае.

Але, я думаю, тут такая ж гісторыя, як і з маёй знаёмай. Не тое што яны такія гордыя, прагныя і дрэнна выхаваныя. Людзі якраз інтэлігентныя. Проста — гусь свінні не таварыш.

Раней было элементарна: усе бедныя і роўныя. Усе любілі адзін аднаго, хадзілі ў госці, выпівалі, хорам пелі народныя песні.

Здаралася, білі морды. Але таксама па любові. Словам, суседа любіць было лёгка. Ты ведаў, што ён такі ж жабрак, як і ты.

Паспрабуйце палюбіць яго зараз. У суседа — «Шкода-Феліцыя», у вас — веласіпед вытворчасці ММВЗ. У яго — тэлевізар «Фунаі», у вас — «Гарызонт». Жонка суседа ходзіць у «прапітцы», ваша — носіць савецкае паліто другую пяцігодку запар. Даволі складана гаварыць аб любові...

Існуюць два выйсці са становішча. Першы: пабіць суседа і сказаць яму «Сам ты казёл!» Другі: пастарацца зарабіць столькі ж. А можа і больш. Першы шлях уяўляецца частцы нашага народанасельніцтва найбольш прыдатным і простым. Але яго прыхільнікаў становіцца ўсё менш.

Большасць аддае перавагу другому спосабу самасцвярджэння. Гэта суцяшае. Дае нейкую надзею. Увогуле, думаю, грошай павінна быць столькі, каб іх не заўважаць. Я маю на ўвазе чужую кішэню...

А так, вядома ж, цяжка быць багатым у беднай краіне. Аптымальна: быць багатым у багатай краіне. Але гэта ўжо іншая гісторыя...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

# «ВУДЫ» Ў ПРАЙДЗІСВЕТАЎ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

**Адна з жыхарак вёскі Сідаравічы Чачэрскага раёна трапіла на «вуду» нейкай бабы Валі, якая ўзялася вылечыць яе дачку ад цяжкай хваробы.**

Знахарка ў першую чаргу, каб заваяваць аўтарытэт і даверлівасць у кліенткі, выступіла перад ёй з лекцыяй аб тым, што ўрачы з вышэйшай медыцынскай адукацыяй разбіраюцца ў тонкасцях чалавечай натуры, нібы свіння ў апельсінах. А вось знахары, да якіх мае гонар належаць і яна, гэта ўжо зусім іншая справа, бо іхнімі розумам, ведамі і памкненнямі кіруе сам Бог. Таму прэч усялякія прэпараты і лякарствы і — дарогу спрадвечнаму метаду народнай медыцыны. У дадзеным выпадку гэта ўсё тыя ж шаптанні. Пры абавязковай умове: не шкадуй, маладзіца, грошай. За шчодрасць Бог адплаціць шчодрасцю, і будзе твая дачушка бадзёрай і здаровенькай.

Такім вось чынам шаптуха «ад Бога» атрымала ад сяльчанкі 2.300 тысяч рублёў, прадукты харчавання, вопратку, вялікі кусок тканіны. І калі жанчына ўпэўнілася, што лячэнне тое дапамагло дачушцы як хваробе кашаль, яна звярнулася ў міліцыю: «Адшукайце прайдзісветку». А бабы Валі, вядома ж, і след прастыў.

Цалкам дапускаем, што жыхарка глыбіннай вёскі Сідаравічы — чалавек не вельмі адукаваны, забіты горам. Дзеля сваёй крывінкі яна і пайшлі на рызыку, хаця, шчыра кажучы, адразу ж паверыла шаптусе. А вось чым кіраваўся касір абменнага пункта валюты аднаго з камерцыйных банкаў Гомеля, калі выконваў гэту аперацыю, невядома.

Двое хлапцоў звярнуліся да яго з прапановай ператварыць трыццаць тысяч «зялёных» у «зайцы». Замест таго, каб адправіць гэтых малайцоў з такой сумай у банк, касір чамусьці сказаў ім прыйсці да яго заўтра. І ў парушэнне правілаў прапусціў іх у абменны пункт. Там і адбылася аперацыя па абмену грошай.

Калі хлопцы ўдзячна паціснулі касіру руку за аказаную паслугу і выйшлі з пункта, апошні вырашыў пералічыць «баксы». Праз дзве хвіліны яго вочы палезлі на лоб. У стосіку долараў замест соценных купюр такіх было толькі дзве — адна зверху, адна знізу, астатнія ж — па аднаму долару. Касір у момант падлічыў страты — 242.900 тысяч рублёў — і, змахнуўшы з ілба пот, пры ўсёй трагічнасці моманту, аднак, знайшоў маленькае суцяшэнне: дзякуй Богу, што прайдзісветы абмянялі толькі палову з тых трыццаці тысяч «баксаў». У адваротным выпадку ён, касір, «праляцеў» бы амаль на паўмільярда рублёў...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# НАДЗЁННАЕ

## «Сродкі барацьбы з парушальнікамі Правілаў дарожнага руху разнастайныя...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

— Пытаннямі разбору па фактах хабарніцтва сярод супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, у тым ліку і ДАІ, займаецца служба ўласнай бяспекі Міністэрства ўнутраных спраў, адпаведныя службы ўпраўленняў унутраных спраў, а таксама органы пракуратуры. Сюды Вы можаце звярнуцца кожны раз.

**— Кажуць, што, каб трапіць у супрацоўнікі ДАІ, трэба прайсці не адзін адбор. Як можна стаць даішнікам?**

*Віктар Сцяпура, г. Валожын.*

— Супрацоўнікам Дзяржаўтаінспекцыі можа стаць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які пражывае на яе тэрыторыі, прыгодны па стану здароўя да службы ў органах унутраных спраў і ДАІ, станоўча характарызуецца па месцы жыхарства, работы ці вучобы, мае вадзіцельскае пасведчанне. Акрамя таго, неабходна прайсці адбор па фізічных даных і агульнаадукацыйнаму ўзроўню.

На пасады радавога і малодшага начальніцкага саставу прымаюцца асобы ва ўзросце да 25 гадоў, на пасады начальніцкага саставу — да 30 гадоў.

Пры прыёме на службу ў Дзяржаўную аўтамабільную інспекцыю перавага аддаецца грамадзянам, якія маюць тэхнічную ці юрыдычную адукацыю.

Ну, а больш падрабязна аб парадку прыёму на службу Вы можаце атрымаць ва ўпраўленні ці аддзеле ўнутраных спраў па месцы жыхарства.

**— Неаднаразова сустракаў пры ўездзе на пост ДАІ аўтаматчыкаў. Што гэта за людзі і чаму яны палохаюць вадзіцеляў? На Захадзе, наколькі я ведаю, такога няма.**

*Сямён Войкаў, г. Мінск.*

— Гэта таксама супрацоўнікі органаў унутраных спраў, толькі ўзброеныя не пісталетамі, а аўтаматамі. Знаходзяцца яны на пастах ДАІ ў першую чаргу ў мэтах асабістай бяспекі тых, хто там нясе службу. А мера гэта неабходная, бо, як вы ведаеце,— злачынны свет сёння і тэхнічна аснашчаны, і мабільны, і ўзброены.

**— Паважаны Алег Аляксеевіч. Пытанне пра новыя чырвонабелыя нумарныя знакі. Як яны размяркоўваюцца па абласцях (па якіх літарах можна вызначыць, што гэта машына, напрыклад, з Брэсцкай вобласці)?**

**І яшчэ. Кажуць, што сярод нумарных знакаў ёсць прэстыжныя: 01... — адносіцца да Адміністрацыі Прэзідэнта, 02... — да Кабінета Міністраў, 03... — да Вярхоўнага Савета.**

*Ігар Лушчык, Смалявіцкі раён.*

— За кожнай вобласцю і г. Мінскам замацаваны пэўныя серыі нумарных знакаў.

Так, за Брэсцкай вобласцю — ад АА да АХ і ад ІА да ІН.

За Віцебскай — ВА—ВХ і ІК—ІХ.
За Гомельскай — ЕА-ЕХ і НА—НХ
За Гродзенскай — СА—СХ і ХА—ХН.
За горадам Мінскам — КА—КХ і МА—МХ.
За Мінскай вобласцю — ОА-ОХ і РА—РХ.
За Магілёўскай — ТА—ТХ і ХК—ХХ.

Што ж датычыць другой часткі пытання, то, паназіраўшы больш уважліва за нумарнымі знакамі транспартных сродкаў хоць бы ў Смалявіцкім раёне, Вы пераканаецеся, што ніякага падзелу на «прэстыжныя» і «непрэстыжныя» нумары проста не існуе.

**— Час ад часу прыходзіцца бачыць на вуліцах нашых гарадоў рэгуліроўшчыкаў ДАІ. Праўда, сярод іх я не бачыў ніводнай жанчыны. Хоць у той жа Італіі часта можна ўбачыць ў ролі рэгуліроўшчыка-інспектара жанчыну... Мабыць, ад прысутнасці на скрыжаванні вуліц «слабага полу» аварыйных сітуацый становіцца значна менш.**

*Фёдар Патуцін, г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

— На жаль, якімі-небудзь сацыялагічнымі даследаваннямі наконт змяншэння аварыйных сітуацый у прысутнасці жанчыны-рэгуліроўшчыцы ў нас наўрад ці хто займаўся.

А вось тое, што на нашых вуліцах таксама можна сустрэць інспектара-жанчыну — пытанне небясспрэчнае. Не гаворачы ўжо аб тым, што іх нямала працуе ў цэлым у органах унутраных спраў. У тым ліку і ў ДАІ.

Проста з-за характару, я сказаў бы суровага, нашай работы, з-за тых жа ўмоў надвор'я, калі службу на дарозе трэба несці і ў дождж, і ў снег, — мы неяк спрабуем аблегчыць, хоць бы ў гэтым, нагрузку для жанчын, якія ўсё-такі вырашылі звязаць свой лёс з цяжкай міліцэйскай службай. Таму часцей Вы можаце ўбачыць прадстаўніц «слабага полу» ў аддзяленнях адміністрацыйнай практыкі, прапаганды бяспекі дарожнага руху і да т. п.

**— Таварыш палкоўнік, думаю, не сакрэт, што зараз на вуліцах рэспублікі шмат парушальнікаў дарожнага руху з «ліпавымі» правамі, але на хуткіх іншамарках, якіх пры неабходнасці работнікам ДАІ і не дагнаць... Якія сродкі барацьбы з парушальнікамі ПДР маюць даішнікі?**

*Іван Несцераў, г. Нясвіж, Мінскай вобласці.*

— Дзякуй за пытанне, але я дазволю сабе ў чымсьці з Вамі не згадзіцца. Бачыце, мінулі тыя часы, калі супрацоўнікі ДПС—ДАІ неслі службу на старэнькіх, патрапаных «Масквічах» ці «Жыгулях», а то і ўвогуле без аўтамашыны. Сёння менавіта тэхнічнаму аснашчэнню службы мы надаём адно з першарадных значэнняў і сёння практычна выключаны факты, калі работнікі ДАІ праследуюць машыну па арыенціроўцы ці злоснага парушальніка Правілаў дарожнага руху і не даганяюць яго.

Безумоўна, адначасова ўвесь аўтамабільны парк падраздзяленняў ДАІ мы абнавіць не ў стане, але сіл і сродкаў да гэтага прыкладаецца нямала. Аб сродках барацьбы з парушальнікамі ПДР» скажу коратка: яны разнастайныя. І сёння мы ў сілах утаймаваць самых злосных аўтамабільных хуліганаў.

* Прозвішча зменена.

**«Прамую лінію» правёў**
**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*РЭПЛІКА*

## Слова адпавядае часу?

Тэатр пачынаецца з вешалкі. Гэта выслоўе ведае кожны, нават не тэатрал. А з чаго пачынаецца кампанія, фірма, звычайная крама, нарэшце? Са звычайнай шыльды. Ну хіба вы яшчэ гадоў 5 таму не з заміраннем сэрца ўваходзілі ў якую-небудзь фірменную краму, якая мела шыкоўную шыльду? Ґэта зараз, калі еўрапейскі стыль прыняты ва ўсім, мы не звяртаем увагі на такую дробязь. Хіба толькі, калі едзем у грамадскім транспарце, мы, каб не бачыць перакрыўленыя злосцю твары суседзяў, глядзім у акно і чытаем шыльды. А што на іх часам бывае напісана...

Па-першае, хочацца адзначыць, што шыльдаў, на якіх назвы напісаны па-беларуску, стала меней. Чамусьці нашы камерцыйныя структуры ды і звычайны дзяржаўны гандаль думаюць, што пасля рэферэндуму 1995 года беларускую мову можна наогул ігнараваць. На рускую мову перайшла ў сваім афармленні кнігарня «Падпісныя выданні», што знаходзіцца на праспекце Ф. Скарыны, хаця раней шыльда была выканана па-беларуску; або аптэка па вул. Маскоўскай, якая зараз «годна» носіць назву «Аптека. Оптика. Косметика». Па-беларуску, на думку распрацоўшчыкаў, шыльда «не чыталася б» і моцна псавала б знешні і ўнутраны выгляд аптэкі. Зрэшты, можа яны і ўвогуле не думалі пра выкарыстанне беларускай мовы.

Двухмоўе таксама часта робіць дрэнную справу. Універсам па вуліцы Маякоўскага вырашыў па прыкладу суседзяў аднавіць шыльду. Так з аднаго боку дзвярэй крамы з'явілася шыльда «Универсам. Особый», а з другога боку — шыльда «Універсам. «Асобы». «Асобы» ў сэнсе «Асаблівы». Менавіта так перакладаецца гэтае «особенное» слова на беларускую мову. Альбо рэстаран-кафэ па той жа вуліцы. Ён носіць назву «Янтар». Нават слых рэжа. Згадзіцеся, што слова «бурштын» больш адпавядае беларускай мове, чым рускае «янтарь». Памылкі робіць і канцэрн «Coca Cola». Вы ніколі не звярталі ўвагу на той надпіс, з якім ездзіць чырвоны аўтамабіль з лагатыпам «Coca Cola»? Дарэмна. Філіял кампаніі піша «па-беларуску»: «Кока Кола Аматіл Беларусія». Дзве памылкі ў адной назве!

Наогул нейкай Ґалгофай для нашых камерсантаў сталі назвы, у якіх выкарыстоўваецца замежнае слова. Добра яшчэ, калі яны разумеюць, што кожнае слова іншамоўнага паходжання падпадае пад беларускі правапіс. А калі не? Толькі няведаннем правілаў можна растлумачыць напісанне слоў «Чэррі», «Десія». Хаця гэтае напісанне можна патлумачыць і па-іншаму: ну не знайшлося грошай у бедных камерсантаў на тое, каб купіць або які-небудзь арфаграфічны слоўнік, або на тое, каб расплаціцца за кансультацыю з якім-небудзь мовазнаўцам.

«Нязначнай» памылкай для розных крам робіцца і правапіс літар «ё» і «ў». Так думаюць людзі з «Гандлёвага дома «На Нямізе». Ну, не заўважылі, падумае нехта. Але гэтае «не заўважылі» ў звычайнай школе ператвараецца для вучня няўважлівага ў чарговую двойку. А вы гаворыце — «не заўважылі».

Ну а самай-самай вялікай бядой робіцца напісанне слоў «аўдыё-відэа». Тут і хочацца каму-нікаму з камерсантаў напісаць па-беларуску, ды толькі дзе там. Паспрабуй у тым жа «Арфаграфічным слоўніку» М. Лабанка і М. Судніка адшукаць гэтыя словы. Працей беднаму камерсанту ў інжынеры падацца, чым гэта зрабіць. Але, спадарства, не гаруйце: хто шукае — той знойдзе! У «Слоўніку беларускай мовы» (1987) чорным па беламу напісана: «аўдыёвізуальны» і «відэа». Так што не ўсё яшчэ страчана. Самае крыўднае і страшнае ў гэтай «эпапеі з шыльдамі» тое, што памылкі аказваюць дрэнную паслугу рэкламе, і, самае галоўнае, мы пацііху прывучаемся пісаць з памылкамі, а праз гэта страчваем павагу да беларускай мовы.

Так што, грамадзяне, будзьце пільнымі: шукайце памылкі!

**Сяргей САХАРАЎ.**

*КРЫМІНАЛ*

## САЛОДКІ КАМЕРСАНТ

**Ідэя была простая: мець столькі грошай, колькі хочацца. Пры гэтым Дзмітрыя Баравога зусім не вабіла перспектыва прыкладаць нейкія намаганні. Яму крыху больш за 20 гадоў, адукацыя няпоўная сярэдняя, агульныя працоўныя здольнасці такія ж. Хлопец як хлопец, такіх у Мінску тысячы.Увогуле, месца банкаўскага служачага ці менеджэра прыстойнай фірмы яму «не свяціла» — не той калібр. Ды і дзелавых сувязей ніякіх.**

Ведаў ён толькі тое, што жыве ў дзіўнай краіне, дзе верылі, вераць і будуць верыць махлярам. Паролем для ўваходу ў гэтую краіну служаць два словы — дэфіцыт і таннасць.

Неяк у кабінет старшыні прафкома паліклінікі № 25 г. Мінска С. Яўстраценка, што па вул. Рафіева, зайшоў малады чалавек. Дзмітрый Баравы прадставіўся менеджэрам аддзела збыту камерцыйнай фірмы, якая гандлюе цукрам. Назву фірмы не памятаюць ужо ні сам Баравы, ні С. Яўстраценка, бо яна была ўзята, як гаворыцца, «ад ліхтара». У памяці адклалася толькі цана прапанаванага цукру, бо была яна значна ніжэйшая за магазінную, і недалёкае месца яго складзіравання — база «Культгандлю». Дастаўку цукру пакупнікам гарантавала фірма.

Жаданне набыць танны цукар выказалі 13 супрацоўнікаў паліклінікі. Усяго сабралі 5 мільёнаў 980 тысяч рублёў.

Пасля гэтага Д. Баравы разам з прадстаўніком паліклінікі А. Шалупнёй прыехалі на базу «Культгандлю». Махляр, узяўшы ў Шалупні грошы, загадаў таму чакаць ля транспартнага цэха, маўляў, трэба выпісаць таварна-транспартную накладную і аплаціць пакупку. Чаканне было марным.

Другі візіт «салодкі камерсант» нанёс у медыцынскае аб'яднанне горада Заслаўя Мінскага раёна. Тут Дзмітрый Баравы «ашчаслівіў» 48 супрацоўнікаў аб'яднання на суму 11 мільёнаў 500 тысяч рублёў. Спосаб завалодання грашыма даверлівых грамадзян быў той жа.

«Людзі ў белых халатах» сталі ахвярамі Баравога і пры трэцяй яго цукровай здзелцы. Так, у паліклініцы Міністэрства абароны ён завалодаў грашыма 23 чалавек на агульную суму 23 мільёны рублёў.

Далей былі дзіцячы сад № 62, размешчаны ў пасёлку Гатава Мінскага раёна, сярэдняя школа № 9 г. Мінска, Рэспубліканская стаматалагічная паліклініка... «Спецыялізаваўся» Дзмітрый Баравы на медыцынскіх і навучальных установах, дзе па логіцы рэчаў, павінны былі працаваць не сказаць каб неразумныя і празмерна даверлівыя людзі. Аднак...

Ашуканыя ім пакупнікі цукру звярнуліся ў органы міліцыі. Кола вакол Баравога пачало звужацца. Але цяжар дармовых грошай у кішэнях пазбавіў яго элементарнай абачлівасці. З кожным разам Дзмітрый Баравы дзейнічаў больш нахабна і прымітыўна.

Аднойчы Баравы з'явіўся ў дзіцячы садзік № 259 па праспекце Пушкіна, 60 у г. Мінску і прапанаваў прадаць ім цукар. Работнікі дзіцячага садзіка сабралі 5 мільёнаў рублёў. І не бачыць бы ім ні цукру ні грошай, калі б аб гэтым не даведаліся супрацоўнікі міліцыі. З'явіўшыся праз некалькі дзён, каб атрымаць грошы і «адправіць» тавар, Баравы быў узяты, як гаворыцца, «цёпленькім». Работнікі дзіцячага садзіка засталіся без цукру, але пры сваіх грашах. І ў гэтым іх шчасце. Бо 168 іншым ашуканым Дзмітрыем Баравым на агульную суму 77 мільёнаў 490 тысяч рублёў (у цэнах 1995 года) доўга прыйдзецца чакаць ад яго сваіх «кроўных», не кажучы ўжо пра цукар.

Цяпер Дзмітрый Баравы ў адной з папраўча-працоўных калоній г. Оршы. Як гаворыцца — кожнаму сваё. Прабыць яму там давядзецца чатыры гады.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ,**
**грамадскі карэспандэнт**
**аддзела права і маралі.**

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ... ХОЧАЦЕ — ПРАВЕРЦЕ*

## ГЭТА КАВАРНАЯ ЧАСЦІЦА «НЕ»,

### або Што-нішто аб загадках чалавечай псіхікі

Да псіхолага звяртаецца жанчына і ў адчаі просіць: «Дапамажыце знайсці ключы! Цэлы дзень шукаю — ключоў нідзе няма». У адказ пачула: «Ідзіце і шукайце са словамі: не памятаю, куды паклала, не ведаю, куды падзеліся ключы». Жанчына літаральна праз 5—7 хвілін вярнулася з ключамі ў руках. Цуд, скажаце вы. Не, проста звычайныя веды. Так, менавіта веданне таго, што павінна было адбыцца ў гэтым выпадку.

Чалавек — вельмі складаная біяінфармацыйная сістэма, якая пастаянна абменьваецца з асяроддзем інфармацыяй, энергіяй. І ад таго, якая інфармацыя і энергія (станоўчая ці адмоўная) паступае на ўваход гэтай сістэмы, залежаць яе рэакцыя, паводзіны. Усё гэта ў поўнай меры датычыць і чалавечай мовы. Бо праз мову мы выказваем свае думкі, якія, як вядома, могуць нават матэрыялізавацца. Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што абсалютная большасць чалавечых бед, памылак, хвароб, траўмаў, аварый і да т. п. залежыць ад таго, што мы гаворым і як мы гаворым. Існуюць пэўныя законы ў адносінах да карыстання мовай, і іх парушэнне несумненна прыводзіць да сумнага выніку.

Такім чынам, паспрабуем унікнуць у тайну закона, які дапамог знайсці згубленыя ключы. Вядома, што кожны гук, які мы вымаўляем, мае толькі сваю, уласцівую яму частату, вібрацыю. Калі абазначыць літары рускага алфавіта лічбамі згодна з навукай аб лічбах, як гэта зрабіў астролаг С. Вронскі, то літарам «Н» і «Е» будзе адпавядаць адна і тая ж лічба «6». Гэта значыць, частата ў іх аднолькавая, а вось фазы вагання — процілеглыя. У выніку чаго пры вымаўленні часціцы «не» ўзнікае як бы нулявая частата для нашай свядомасці, яе як бы няма. Часціца - фантом. Наш мозг успрымае моўную інфармацыю без часціцы «не».

Дык што ж адбылося ў кабінеце псіхолага? А вось што. Часціца «не» «згубілася» ў свядомасці жанчыны, і яна, а дакладней яе мозг, успрыняла наступную каманду: «Памятаю, куды паклала, ведаю, куды падзеліся мае ключы». Менавіта з гэтай думкай у галаве яна ўзялася шукаць. Паколькі мозг чалавека падключаны да інфармацыйнага поля Зямлі, праз зададзеную каманду мозг жанчыны атрымаў дакладную інфармацыю аб месцазнаходжанні прапаўшых ключоў. (Каго такая версія не задавальняе, скажам прасцей: такім чынам жанчына актывізавала ўласную памяць.)

А цяпер, дарагія чытачы, паглядзіце, як часта і бяздумна мы ўжываем ў мове гэту часціцу «не» і што пры гэтым адбываецца. Прывяду некалькі прыкладаў і пастараюся паказаць, наколькі важнае ўменне кантраляваць свае думкі і мову і для радавых працаўнікоў, і для кіраўніка дзяржавы.

Настаўніца просіць дзяцей: «Дзеці, не забудзьце прынесці ў наступны раз...» Менавіта ў наступны раз як мінімум паўкласа забылася прынесці тое, аб чым прасіла настаўніца.

«Я цябе вельмі прашу, не забудзь пазваніць мне...» Вынік яўна процілеглы. А калі напомніць аб гэтым чалавеку некалькі разоў запар — дакладна забудзе. І яго віны тут няма, ён абсалютна дакладна выканаў тое, аб чым вы яго прасілі, — ён забыўся пазваніць.

Мама крычыць малому на вуліцы: «Не бяжы, упадзеш. Не бяжы, упадзеш!» Малы бяжыць яшчэ хутчэй і, на жаль, падае, дакладна выконваючы загад мамы.

Бацька дакарае сына: «Скажы, ты будзеш яшчэ так рабіць?» Сын адказвае: «Не буду», а праз вельмі кароткі час усё паўтараецца зноў. Бацька разгневаны, сын у шоку, хоць ён тут ні пры чым... Як часта ўрачы ў бальніцах гавораць пацыентам: «Вы сёння выглядаеце нядрэнна, нават вельмі нядрэнна» або што-небудзь у гэтым родзе. У выніку станоўчы вынік лячэння можа рэзка аслабнуць або нават даць адмоўны эфект. І чым вышэй аўтарытэт урача, тым больш непажаданымі могуць быць вынікі для пацыента.

На многіх плакатах па тэхніцы бяспекі ярка і маляўніча зроблены надпісы: «Не куры ў гаражы», «Не захоўвай ГЗМ паблізу ацяпляльных сістэм», «Не гуляй з агнём» і да т. п. Хто ведае, можа быць ільвіная доля страт, вылічаемых мільёнамі і сотнямі мільёнаў рублёў, узнікае менавіта па прычыне памылкова складзеных інструкцый і надпісаў на плакатах. Можа быць пытанні выканання тых або іншых заканадаўчых актаў, якія прымаюцца ўрадам, былі б вырашаны больш паспяхова пры карэктным выкарыстанні гэтай каварнай часціцы «не». А тое, што прымаемыя законы выконваюцца слаба — гэта разумеюць усе, і праблема стаіць востра.

Якое ж правіла карыстання часціцай «не» ў мове? Калі вы ў думках адкінеце часціцу «не» ў вымаўляемай вамі фразе і атрымаецца станоўчы сэнс, тады часціцу «не» можна вымавіць, а калі адмоўны — нельга. Як аксіёму гэта палажэнне выкарыстоўваюць усе ўрачы-псіхатэрапеўты, што праводзяць аздараўленчыя сеансы аўтатрэнінгу і гіпнозу.

Яны прыйшлі да гэтага чыста доследным шляхам. Такі ўрач пазбягае ў лячэбным сеансе выказванняў накшталт «вы сябе адчуваеце нядрэнна, сэрца б'ецца няхутка, рукі і ногі нерухомыя» і да т. п., бо эфект будзе яўна адваротны.

**Міхаіл РУЦКІ, псіхолаг.**

г. Мінск.

# ШВЕЙЦАРЦЫ ВЕЛЬМІ ШАНУЮЦЬ СВОЙ НЕЙТРАЛІТЭТ, СУВЕРЭНІТЭТ І ВЫСОКІ ЎЗРОВЕНЬ ЖЫЦЦЯ

*Адказы Станіслава АГУРЦОВА, пасла Рэспублікі Беларусь у Швейцарскай Канфедэрацыі, пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе, на пытанні карэспандэнта «Звязды»*



**— Станіслаў Сяргеевіч, быццам бы Швейцарыя і побач з намі, але, тым не менш, ведаем мы пра гэту краіну мала. Успамінаюцца звычайна банкі, гадзіннікі, сыр. Апошнім часам загаварылі пра швейцарскія рэферэндумы як дэмакратычную рысу жыцця краіны. Якія яшчэ асаблівасці характэрны, на Ваш погляд, для гэтай дзяржавы?**

— Швейцарыя — вельмі своеасаблівая з пункту гледжання палітычнага ўладкавання, жыццёвага складу і псіхалогіі людзей краіна. Швейцарская Канфедэрацыя як саюз незалежных дзяржаў была ўтворана больш як 700 гадоў таму. Аднак паняцце «канфедэрацыя» — гэта хутчэй даніна гісторыі. Сёння Швейцарыю трэба разглядаць як федэрацыю, у якой 23 кантонам дадзены шырокія правы. Кантоны адказваюць за бяспеку грамадзян, у многім самастойна вырашаюць пытанні сацыяльна-эканамічныя, адукацыі, культуры, маладзёжнай палітыкі, спорту і г. д. Кожны кантон мае сваю канстытуцыю, парламент і ўрад. Канстытуцыя Швейцарыі не прадугледжвае права кантонаў на аддзяленне, ім не дазваляецца заключаць паміж сабой ці з іншымі дзяржавамі дагаворы палітычнага характару і якія-небудзь асобыя саюзы. Аднак пэўная самастойнасць кантонаў ні ў якай меры не падрывае асновы федэралізму.

Мушу заўважыць, што для швейцарцаў характэрны глыбока ўкаранелы дух адданасці нейтралітэту. Любыя размовы аб удзеле краіны ў еўрапейскай эканамічнай інтэграцыі, не гаворачы ўжо аб членстве ў Еўрапейскім саюзе, ці, напрыклад, аб уступленні ў ААН, успрымаюцца большасцю швейцарцаў ледзь не як страта нацыянальнага суверэнітэту, як далучэнне да блокавай палітыкі. Растлумачыць такі падыход можна вялікай адданасцю швейцарцаў сваёй гістарычнай самабытнасці і самастойнасці.

Швейцарыя захоўвае адно з першых месцаў у свеце па ўзроўню дабрабыту насельніцтва. Летась даход на душу насельніцтва склаў 37.180 долараў ЗША. І любыя перамены ў жыцці могуць пахіснуць гэты дабрабыт, лічаць многія швейцарцы. Аднак змены ў свеце ставяць перад Швейцарыяй праблемы, на якія рана ці позна неабходна будзе рэагаваць.

**— Высокі ўзровень жыцця абумоўлены эфектыўнай эканомікай. У гэтым сэнсе Швейцарыя бачыцца цікавым партнёрам. Як развіваюцца сёння беларуска-швейцарскія гандлёва-эканамічныя сувязі?**

— Адразу скажу, што стрыжнем работы пасольства з'яўляецца эканамічны накірунак. Ніколькі не змяншаючы значэння палітычных аспектаў і традыцыйных дыпламатычных функцый, пасольства ўсяляк садзейнічае рэалізацыі канкрэтных гандлёва-эканамічных праектаў і сувязей, накіраваных на пашырэнне гандлю, устанаўленне дзелавых кантактаў, стварэнне сумесных прадпрыемстваў і г. д.

У 1995 годзе знешнегандлёвы абарот паміж Беларуссю і Швейцарыяй склаў каля 88 млн. швейцарскіх франкаў — гэта амаль на 20 працэнтаў больш, чым у 1994 годзе. Прычым станоўчае сальда для Беларусі склала каля 9 млн. швейцарскіх франкаў.

З мэтай пашырэння беларуска-швейцарскага гандлю і эканамічнага супрацоўніцтва пасольства сумесна з Гандлёвай палатай і Міністэрствам знешнеэканамічных сувязей арганізавала ўдзел Беларусі ў Міжнароднай выстаўцы ў Базелі «Сюісстэк-96». Беларусь — адзіная з краін СНД, экспазіцыя якой разгорнута ў павільёнах гэтай выстаўкі. Выстаўка пайшла ў канцы лістапада.

**— А як наконт швейцарскіх крэдытаў і інвестыцый у беларускую эканоміку?**

— Швейцарская крэдытная лінія ў 1996 годзе складае 20 мільёнаў франкаў. На сённяшні дзень намі практычна асвоена 13,28 мільёна франкаў гэтых сродкаў, яшчэ 2,1 мільёна будуць рэалізаваны для «Белвара». Засталіся 4,62 мільёна, якія чакаюць рэалізацыі ў рэспубліцы.

Цяпер пра інвестыцыі. Швейцарыя — адзін з буйнейшых сусветных інвестараў. Агульны аб'ём замежных інвестыцый гэтай краіны дасягае 160 мільярдаў долараў ЗША. Аб'ём інвестыцый Швейцарыі ў эканоміку Беларусі, на жаль, пакуль невялікі і складае каля 9 мільёнаў долараў ЗША. Нашы партнёры хочуць мець цвёрдыя гарантыі таго, што ўкладаемыя імі капіталы надзейна абаронены і будуць прыносіць прыбытак.

Значных інвестыцый можна чакаць ад буйных фінансава-прамысловых груп. Пэўныя крокі таксама робяцца шэрагам швейцарскіх карпарацый і фірмаў. Беларусь мае добрую рэпутацыю сярод дзелавых людзей Швейцарыі, якіх прыцягваюць наша выгаднае геаграфічнае месцазнаходжанне, кваліфікаваная рабочая сіла, мытны саюз з Расіяй і ўнутрыпалітычная стабільнасць.

**— Калі ласка, некалькі слоў аб бязвыплатных крэдытах ці, інакш кажучы, грантах.**

— Швейцарская Канфедэрацыя аказвае Беларусі значную бязвыплатную дапамогу ў выглядзе фінансавання праектаў у галіне аховы здароўя, абароны навакольнага асяроддзя, геадэзіі і г. д. Агульны кошт праектаў, якія ўжо ажыццяўляюцца ці прайшлі працэдуру адабрэння, складае 15,6 мільёна франкаў.

Я ўжо казаў аб швейцарскіх крэдытах. Параўнайце гэтыя два паказчыкі і вы ўбачыце, што паказчык бязвыплатных грантаў перавышае аб'ём крэдытаў, выдзеленых беларускім прадпрыемствам у рамках дзяржаўных крэдытаў. Калі гаварыць аб канкрэтных праектах, то трэба адзначыць грант у памеры 6,1 мільёна франкаў на састаўленне першай і другой чаргі зямельнага кадастру Беларусі, таксама 6,1 мільёна — на абсталяванне радзільных дамоў, 1,2 мільёна — на стварэнне сістэмы кантролю за адпрацаванымі газамі на Гомельскай ЦЭЦ, 2,2 мільёна — на будаўніцтва водаачышчальнай станцыі ў Добрушы. Вядзецца прапрацоўка праекта рэканструкцыі гарадскога цэнтра кіравання Мінскіх кабельных сетак коштам 5 мільёнаў франкаў. Укараненне гэтага праекта дазволіць зэканоміць 22 млн. кВт/гадз. электраэнергіі ў год.

**— Вы не толькі пасол у Швейцарыі, але і прадстаўнік пры міжнародных арганізацыях, якія там маюць свае штаб-кватэры. Як складваюцца з імі адносіны?**

— Гэта важны ўчастак нашай работы — супрацоўніцтва з размешчанымі ў Швейцарыі міжнароднымі эканамічнымі арганізацыямі. Вядзецца актыўная работа па прыцягненню тэхнічнай дапамогі з боку Канферэнцыі ААН па гандлю і развіццю (ЮНКТАД) для далучэння Беларусі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі (сумесны праект ЮНКТАД—МЗЭС Беларусі). ЮНКТАД, Міжнародны гандлёвы цэнтр, Еўрапейская эканамічная камісія ААН падтрымалі ідэю нашага Міністэрства знешніх эканамічных сувязей адкрыць у Мінску Нацыянальны цэнтр маркетынгу і кан'юнктуры цэн. Ужо ўзгоднена канцэпцыя цэнтра і вядзецца практычная работа па яе ажыццяўленню.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### СЛЯДЫ ТЭРАКТА Ў ПАРЫЖЫ ВЯДУЦЬ У АЛЖЫР

У аўторак вечарам у Парыжы на ветцы «В» парыжскага рэгіянальнага экспрэса адбыўся выбух — яшчэ адзін тэрарыстычны акт, які імгненна забраў жыццё двух чалавек.

Выбух адбыўся ў гадзіну «пік», па заканчэнні працоўнага дня, калі сотні тысяч служачых спускаюцца ў метро і ідуць да прыгарадных электрычак, якія вязуць іх дадому. Самаробная бомба, што складалася з балона для газу бутан, запоўненага ўзрыўчаткай і цвікамі для павелічэння забойнай сілы, узарвалася ў сярэдзіне саставу поезда — у чацвёртым з васьмі вагонаў. Два чалавекі былі забіты на месцы, больш трыццаці атрымалі раненні. Сем з іх знаходзяцца ў крытычным стане. Большасць параненых пакутуе ад апёкаў і асколачных раненняў. Першае абследаванне бомбы экспертамі пацвердзіла практычную ідэнтычнасць «почырку» аўтараў гэтага выбуху і тых, хто ў ліпені мінулага года ажыццявіў цэлую серыю выбухаў у паяздах французскай сталіцы і ў некалькіх гарадах правінцыі. Міністр унутраных спраў Францыі ўпэўнены ў тым, што сляды апошняга тэракта вядуць да пэўных колаў ісламскіх фундаменталістаў. Што датычыцца прычын тэракта, то, на думку назіральнікаў, ён звязаны з рэферэндумам, які днямі праводзіўся ў Алжыры і прынёс перамогу прэзідэнту Зеруалю.

Нагадаем, што Зеруаль выступіў за забарону фундменталісцкіх партый.

### БЯЛГРАД: ДЭМАНСТРАЦЫІ ПРАТЭСТУ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

У Бялградзе трэці тыдзень працягваюцца масавыя дэманстрацыі. Іх удзельнікі выказваюць пратэст супраць адмены вынікаў выбараў у органы мясцовага самакіравання ў тых акругах, дзе перамагла апазіцыйная кааліцыя. Учора на вуліцы сербскай сталіцы выйшлі каля 100 тысяч чалавек. Вуліцы Бялграда патрулююць сотні паліцэйскіх, аднак дагэтуль сур'ёзных сутыкненняў паміж пратэстантамі і сіламі бяспекі не было.

У аўторак сербскія ўлады закрылі буйнейшую незалежную радыёстанцыю, а другой забаранілі выходзіць у эфір. Абедзве радыёстанцыі транслíравалі перадачы, якія ўтрымлівалі крытыку прэзідэнта і паведамлялі падрабязнасці акцый пратэсту.

### ТАДЖЫКСКАЯ АПАЗІЦЫЯ НЕ ЗБІРАЕЦЦА ВАЯВАЦЬ З РАСІЯЙ

Лідэр аб'яднанай таджыкскай апазіцыя назваў правакацыйным паведамленне ІТАР-ТАСС пра тое, што апазіцыя пагражае атакаваць расійскіх вайскоўцаў у Таджыкістане. Паведамленне ІТАР-ТАСС сцвярджала, што лідэр апазіцыі выступіў з гэтай пагрозай падчас размовы з прадстаўніком ААН, якому ён заявіў, што расійскія вайскоўцы стануць аб'ектам нападаў, у тым ліку і па месцы іх жыхарства, калі расійская авіяцыя падтрымае наступленне ўрадавых войскаў.

Учора раніцай сілы таджыкскай апазіцыі зноў атакавалі падраздзяленні спецназа МУС Таджыкістана.

### КАТАСТРОФА Ў ЛОНДАНСКІМ МЕТРО

Учора ноччу ў Лондане сышоў з рэек поезд метрапалітэна. Раненні рознай ступені цяжкасці атрымалі 5 пасажыраў. Аварыя адбылася на перагоне адной з цэнтральных станцый у выніку рэзкага манеўравання саставу — на павароце хваставы вагон стукнуўся аб сценку тунеля і заваліўся набок. Выратавальнікі, якія прыбылі даволі аператыўна, эвакуіравалі з метрапоезда больш як 70 чалавек.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расія» і «Радыё-РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Ці прыстойна займацца каханнем у грамадскім месцы? Паліцыя Дамініканскай Рэспублікі лічыць, што не. На набярэжнай горада Пуэрта-Плата за адзін толькі нядзельны вечар яна «зняла» 22 пары каханкаў. Усе яны паўсталі перад судом па абвінавачанню ў замаху на грамадскую мараль.

Па словах начальніка мясцовай паліцыі, сярод затрыманых — маладыя і дарослыя, а некаторыя — «такія старэнькія, што я нават не чакаў». Паліцэйскі палкоўнік заявіў, што цяпер і ў начны час, і ўдзень будуць выдзяляцца патрулі з тым, каб палажыць канец «любоўнаму разгулу» ў гэтым турыстычным цэнтры.

**ІТАР—ТАСС.**

Вярнуўшыся на зямлю кітайскі навуковы спадарожнік Зямлі абрадаваў кітайцаў. Аказалася, што іх радзіма больш багатая і неабдымная, чым думалі раней. З дапамогай касмічнай фотаздымкі ўстанавілі, напрыклад, што ў КНР цэлых 5 тысяч астравоў і астраўкоў, а не 3,3 тысячы, як лічылася.

**ІТАР—ТАСС.**

*Іна АФАНАСЬЕВА:*

# «Хочацца праспяваць разам з усімі сябрамі»

*У ГАСЦЯХ — «ЗОРКА»*

**Адна з маленькіх эстрадных сенсацый гэтага лета — пераход у ранг самастойнай, незалежнай артысткі Іны Афанасьевай. Развітаўшыся з Дзяржаўным канцэртным аркестрам пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, спявачка спрабуе застацца той жа любімай Інай Афанасьевай. Ужо з'явілася нават трошкі іншае артыстычнае аблічча, і новыя самастойныя планы.**

**— Вось ужо восень на зыходзе, час сур'ёзна брацца за работу пасля адпачынку. Здаецца, лета ў вас было вельмі насычанае...**

— Па-першае, я адпачыла, мы з'ездзілі ў Балгарыю, на мора. Мне мора не ў навіну, а вось свайго сына я ніяк не магла туды звазіць. У гэтым годзе ажыццявілася мая і яго мара. І, безумоўна, ёсць новыя планы, галоўнае, каб пад іх яшчэ было шмат грошай. Ва ўсякім разе, ёсць думкі, ідэі. Ёсць людзі, якія ў гэтым зацікаўлены і жадаюць працаваць.

**— А няма страху, што ўпершыню за 7 гадоў засталася адна, без падтрымкі ў выглядзе дзяржаўнага калектыву?**

— Ведаеце, як чалавек я заўсёды была самастойная. І для мяне было не нова аказацца ў самастойным выбары. Вядома, спачатку нешта ўнутры, у сэрцы ёкала. Проста я ўвогуле цяжка прывыкаю на новым месцы і вельмі доўга заўсёды прыстасоўваюся да іншага стану. Хоць, на першы погляд, я хутка сыходжуся з людзьмі. Але потым даволі складана пайсці ад іх. Мне шкада было губляць людзей, з якімі працавала, якіх ужо добра ведаю, якім я верыла, ці не верыла, якіх любіла. Таму чыста чалавечы страх быў.

А што датычыцца будучыні, я думаю, калі буду спяваць, то без работы не застануся. Мяне запрашаюць на канцэрты. Іншая справа, што ў нашай краіне зараз усё ідзе на спад у адносінах да культуры. Стала намнога меней канцэртаў, таму што ў людзей проста не хапае грошай схадзіць у магазін і купіць хлеб і малако. Куды там яшчэ на задавальненні... А шоу-бізнес і ўвогуле сцэна, эстрада патрабуе немалых затрат.

**— Пасля таго, як вы адправіліся ў самастойнае плаванне, давялося не адзін раз пачуць пытанне: «А што, Афанасьева яшчэ не ў Маскве?»**

— Ой, калі стала вядома, што я пайшла з аркестра, шмат нават незнаёмых людзей званілі мне дамоў і пастаянна пыталіся: «Вы што, з'язджаеце ў Маскву?» Я кажу: «А чаму нехта вырашыў, што я павінна туды ехаць?» Вельмі шкада, што адразу ўзнікае менавіта такое меркаванне. Тым больш калі ведаюць, што чалавек працуе паспяхова і ў прынцыпе можа з'ехаць, чаму тыя людзі, ад каго гэта залежыць, не робяць нічога, каб стварыць тут нармальную абстаноўку для працы, каб у нас з'яўляліся свае «зоркі»? Тым больш, у нас ёсць людзі, якія могуць і маюць поўнае права насіць гэтае званне — «зорка». Гучна сказана, але так павінна быць. Мне заўсёды было крыўдна з-за таго, што ў нашай краіне не цэняць таго, што маюць.

**— Вы зараз у артыстычным росквіце. А вось вядомасці, як, напрыклад, у той жа Алёны Свірыдавай, што ў пэўны момант пакінула Беларусь, няма. Не шкадуеце?**

— Ну, Алёна вымушана была з'ехаць. У нас усё ж такі эстрада, я сказала б, кансерватыўная, у яе вельмі складана ўвайсці новаму чалавеку. Тым больш, калі ён не падобны на ўсіх астатніх. Калі чалавек па складу авантурыст, ён можа кінуць усё і пачаць наноў. Я трошкі іншы чалавек. Больш прыземлены, больш сямейны. Для



мяне вельмі важна мець свой куток і ведаць, што гэта — маё. Мне цяжка мяняць месца жыхарства. Для мяне было вялікай праблемай пераехаць у Мінск. Да Мінска я прывыкала 6 гадоў, таму што ў мяне тут не было сяброў, добрых сяброў у поўным сэнсе. А для жанчыны заўсёды многа азначае яе акружэнне — людзі, якія разумеюць. Тады цягне ў гэта месца ці ў гэты горад.

**— Вы казалі пра кансерватызм беларускай эстрады. А не даводзілася чуць, як кажуць многія, што ўсе маладыя артысткі ў нас такія аднолькавыя і ўсе спяваюць, як Афанасьева? Вы паспелі стварыць ужо нейкі свой стыль?**

— Па-першае, не я зрабіла гэты стыль, а мой педагог Нэлі Мікалаеўна Бардунова. Некаторых гэты стыль раздражняе, хтосьці, наадварот, яго пераймае. Але гэта мой голас, мае адносіны да песні, мае пачуцці, мае эмоцыі.

**— На самых апошніх песнях адчуваецца, што сталі спяваць трошкі інакш — у сэнсе вакалу, голасу, самога настрою.**

— Безумоўна, чалавек мяняецца. І я расту, сталею, старэю. І ў мяне з'яўляюцца новыя інтанацыі.

**— Калі зараз пачынаецца новы творчы этап, мабыць, у вас з'явіліся новыя аўтары песень?**

— Зараз я плённа супрацоўнічаю з Юрам Багаткевічам. Здаецца, што ён той музыкант, які мяне разумее, якога я разумею, увогуле ён тонкі псіхолаг. Мне цікава з ім працаваць, у любы момант ён падтрымае. Я з ім не збіраюся развітвацца ў творчасці.

**— У вашых песнях яшчэ і Валерый Дайнека стаў кампазітарам і нават аўтарам тэкстаў.**

— Так выпадкова здарылася. Валера напісаў песню на словы Валянціны Паліканінай, там добрыя словы, добрая музыка: гэта яго першая работа і Юра зрабіў да яе аранжыроўку. Песня спадабалася, і ўсе, хто яе чуў, здзіўляліся таму, што яе напісаў Валера. Увогуле ў адносінах да рэпертуару ў мяне ўсё спантанна атрымліваецца. Спадабалася песня — я яе бяру, не спадабалася — не бяру. Таму ў мяне пастаянных аўтараў няма.

**— Калісьці, як толькі з'явілася ваша першая сумесная песня з Дайнекам — «Хвалі ў моры», вы казалі, што не збіраецеся спяваць дуэты, што вы самі па сабе. Час ідзе, а дуэты ўсё з'яўляюцца.**

— Вельмі хочацца праспяваць яшчэ з усімі сваімі сябрамі. Але, на жаль, я не Павароці... А калі сур'ёзна, з Валерам увесь час разам мы не спяваем.. У яго свая сольная праграма, у мяне — свая. Вось Саша Саладуха выказаў жаданне са мной праспяваць, у нейкім інтэрв'ю я прачытала.

**— А з кім хацелі б вы?**

— Я, напрыклад, хацела б спець з гуртом «Крама», потым яшчэ з Анатолем Ярмоленкам. Я магла б праспяваць з усімі — шчыра кажучы, гэта вельмі цікава.

**Надзея КУДРЭЙКА, Ларыса ЦІМОШЫК.**



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## ПАРАДАК РЭГУЛЯВАННЯ

Каб адрэгуляваць зазоры клапанаў у «Жыгулях», трэба зняць накрыўку галоўкі блока разам з пракладкай і, пракручваючы пускавой ручкай каленчаты вал, сумясціць метку на зорачцы размеркавальнага вала з меткай на корпусе падшыпнікаў (А і Б на малюнку).

У такім становішчы рэгулююцца зазоры выпускнога клапана IV цыліндра (8-ы кулачок) і ўпускнога клапана III цыліндра (6-ы кулачок). На малюнку гэтыя аперацыі пазначаны лічбай 1.

Рэгуліроўку робяць двума ключамі. Адным трымаюць галоўку рэгуліровачнага балта В, другім аслабляюць контргайку Г і, калі трэба, паварочваюць болт, крыху павялічваючы зазор. Паміж рычагом і кулачком размеркавальнага вала ўкладваюць плоскі шчуп таўшчынёй 0,15 мм і шырынёй 20—25 мм, дабіваючыся такой рэгуліроўкі, каб гэты шчуп выцягваўся з зазору з невялікім намаганнем (прыкладна 2—2,5 кг). Утрымліваючы ў гэтым становішчы болт, зацягваюць контргайку і яшчэ раз правяраюць зазор. Усё вышэйапісанае ёсць ва ўсіх інструкцыях па эксплуатацыі «Жыгулёў». А вось што рабіць далей?

Трэба пакруціць каленчаты вал на 1800 (паўабарота) і адрэгуляваць зазор выпускнога клапана II цыліндра (4-ы кулачок) і ўпускнога — IV цыліндра (7-ы кулачок).

На малюнку гэта аперацыя пазначана лічбай 2. Затым пракруціце вал яшчэ на 1800 і адрэгулюйце зазоры на 1-м і 3-м кулачках (лічба 3). Застаецца трэці раз павярнуць вал на паўабарота і закончыць рэгуліроўку на 5-м і 2-м кулачках (лічба 4). І яшчэ адна парада: не спяшайцеся і лепей некалькі разоў праверце зазор кожнага клапана.




*Паслядоўнасць рэгулявання клапанаў: I—IV — нумарацыя цыліндраў; 1—4 — паслядоўнасць рэгулявання (1 — шосты і восьмы, 2 — чацвёрты і сёмы, 3 — першы і трэці, 4 — пяты і другі кулачкі); А — метка на зорачцы, Б — метка на корпусе падшыпнікаў; В — галоўка рэгуліровачнага балта; Г — контргайка.*

## ЗРУЧНЫ КЛЮЧ

Для праварочвання каленчатага вала рухавіка ў «ВАЗ-2105» карыстаюцца спецыяльным калаўроцікам ці вялікім гаечным ключом, якія надзяваюць на шасціграннік храпавіка і якіх няма ў бартавой сумцы.

Між тым іх паспяхова замяніць балонны ключ, які заўсёды ёсць у машыне. У залежнасці ад становішча храпавіка яго ўстаўляюць адным ці другім бокам, як паказана на малюнку.



*Магчымае становішча храпавіка і ключа.*

**АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

# КАСІЎ ВАСІЛЬ СЕНА




Ад хаты да хаты, з вёскі ў вёску спрадвеку хадзілі па Беларусі вандроўнікі. Многія з іх ішлі з песнямі. Спявалі пра падзеі хрысціянскія і гістарычныя, пра долю, пераважна нявшчасную, пра імгненнасць кахання. Звычайна падчас спеву ігралі на гуслях, ліры. Гэтых вандроўнікаў у народзе называлі гуслярамі, лірнікамі, а часцей — песнярамі. Люд любіў іх. Любіў за тое, што яны песняй, музыкай радавалі, суцяшалі, падтрымлівалі надзею, дапамагалі выстаяць у нягодах.

Традыцыі вандроўных спевакоў беражліва прадаўжае ансамбль «Песняры». Сваім незвычайным спевам ён мацуе нацыянальны дух. З уласцівай яму экспрэсіўнасцю і каларытнасцю гучання выконвае беларускія песні. З першых дзён існавання (ансамбль узнік у 1969 годзе), у час, калі ўладамі вялася актыўная работа па зліццю культур, «Песняры» дэманстравалі ў родным краі, у Саюзе і ў замежных краінах, куды выязджалі на гастролі, харăство і самабытнасць народнай песні.

З вялікім густам падбіраюць «Песняры» творы для рэпертуару. Яны лічацца выразнікамі нацыянальнага духу, таму артысты прапануюць жыццесцвярджальныя, прасякнутыя любоўю песні.

«Касіў Васіль сена» — адна з такіх, што выконвае ансамбль «Песняры». У адрозненне ад многіх сямейна-бытавых і баладных песень, дзе «маладую нявестку маці неўзлюбіла», тут будучая свякроў паказана ўдумлівай, спагадлівай кабетай. Сваім разважлівым, дбайным стаўленнем да сына і яго каханкі яна наладжвае паразуменне ў драматычнай сітуацыі, нясе спакой і радасць.

Такія асноўныя рысы характару беларускі і ўвогуле ўсяго люду беларускага. Яны выразна праяўляюцца ў напружаныя моманты жыцця. Адзін з іх адлюстраваны ў песні.

Напачатку шырокімі мазкамі, лаканічна падаецца панарама вясковых будняў. У малюнку прывычнага сялянскага занятку па-мастацку абгрунтоўваюцца паводзіны моладзі ў пераломны для іх перыяд. «Касіць сена» — вобраз-параўнанне, які азначае, што надышоў час рыхтавацца да жаніцьбы (замужжа). Травы знаходзяцца якраз у той стадыі спеласці, калі пасля скошвання яны захоўваюць і пажыўныя якасці, і духмянасць. Варта толькі дачакацца пары сенакосу і не прапусціць яго.

Час змены сямейнага становішча моладзі (паміранне ў адной якасці і ўзнаўленне ў другой) адлюстраваны ў многіх народных песнях — «Касіў Ясь канюшыну», «Касіў казак сена», «Там за гаем зеляненькім» і інш. У мастацкай літаратуры напісаны разнастайныя карціны сенакосу і выяўлення пачуццяў у моладзі падчас яго. Іван Мележ маляўніча перадаў гэтую пару ў «Палескай хроніцы».

Песня «Касіў Васіль сена» друкуецца паводле кнігі «Вянок беларускіх народных песень» (1988), складзенай Уладзімірам Раговічам. Запіс зроблены ў 1983 годзе на Століншчыне, у вёсцы Лядзец, ад Я. Майсак, Л. Кадоліч, Г. Глуско.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## КАСІЎ ВАСІЛЬ СЕНА (Беларуская народная песня)

*Касіў Васіль сена,*
*Шырокі пакосы,*
*Да яго дзяўчына*
*Дзяціну прыносіць.**

*— Васілю, Васілю,*
*Забірай дзяціну,*
*А як ты не возьмеш,*
*На пакосе кіну.*

*— Дам я табе, Галю,*
*Да грошай багата,*
*Не кажы нікому,*
*Што я яе тата.*

*— Не хачу, Васілю,*
*Я тых грошай браці,*
*Ўсім буду казаці,*
*Што ты яе тата.*

*Кінуў Васіль косу*
*У самага долу,*
*Ўзяў тую дзяціну*
*Ды й панёс дадому.*

*— Ой, маманька, мама,*
*Што й та за прычына,*
*Ў лесе на пакосе*
*Ляжала дзяціна.*

*— Забірай дзяціну —*
*Сораму не будзе,*
*Цераз гадок-другі*
*Табе помач будзе.*

*— Ой, маманька, мама,*
*Шчэ й друга прычына:*
*Ў сенях за дзвярыма*
*Там плача дзяўчына.*

*— Бяры ту дзяўчыну*
*Ды й вядзі ж у хату,*
*Будзе табе жонка,*
*А дзіцяці маці.*

*— Ой, даруй мне, матка,*
*За маю правіну,*
*Што я на пакосы*
*Занясла дзяціну.*

*— Ой, дарую, доню,*
*Я тваю правіну,*
*Шануй майго сына,*
*Як сваю дзяціну.*

** Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.*





## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 5 снежня

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.45** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** Аўта-парк.
**8.30** Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
**9.00** Тэлебом-кліп.
**9.25** «Пяць тыдняў на паветраным шары». Мультфільм.
**10.10** Каралеўскае паляванне.
**10.50** «Трапічная спёка».
**11.50** Госці ў хату. «Паміж Захадам і Усходам».
**12.20 —12.50** Музыка без межаў. Музычна-інфармацыйная праграма
**15.00** Навіны.
**15.10** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. Пятрусь Броўка і яго творчасць.
**15.40** «Перспектывы малой энергетыкі». Перадача з Брэста.
**16.00** Канцэртны сезон. Майстры мастацтваў Рэспублікі Малдова ў Беларусі.
**17.20** Арсенал.
**17.50** Урокі Наталлі Наважылавай.
**18.20** Музычны антракт.
**18.35** Эканамікст.
**18.45** Рэклама.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**19.05** «Оскар». Тэлегульня.
**19.40** «На мяжы тысячагоддзяў». Сучасная эміграцыя ў Амерыцы.
**20.35** Рэклама.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.10** «Сэм Х'юстан — легенда Тэхаса». Маст. фільм (ЗША). 1-я серыя.
**23.25** «Крок». Праграма для моладзі.
**23.55** Навіны.

### ГРТ

**8.00** Навіны.
**8.15** «Новая ахвяра».
**9.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. «Мілан» (Італія) — «Русенборг» (Нарвегія).
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Свет». «Пад дахам міру».
**11.55** «Гардэмарыны, наперад!» 3-я серыя.
**13.05** «Паляўнічая стрэльба». Мультфільм.
**13.15** «Брэйн рынг».
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Касмічныя спектаклі лейтэнанта Марша».
**14.45** Лего-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.40** «Карын і яе сабака».
**16.05** Рок-урок.
**16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.30** «Джэнтльмен-шоу» на Першым канале.
**19.00** Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я».
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Прэм'ера Першага канала. Алена Сафонава ў фільме Івана Дыхавічнага «Музыка для снежня».
**22.45** Навіны.
**22.55** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.
**23.45** Прэс-экспрэс.
**0.05** Праграма перадач.

### «Расія»

**6.00** Ранішні экспрэс.
**6.25** Па дарозе на працу.
**6.35** «Чараўнік Смарагдавага горада».
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**7.20, 9.50, 23.25** Тавары — поштай.
**7.30** Ранішні экспрэс-2.
**8.00** Рэтра-шлягер.
**8.25** «Дарагая рэдакцыя...»
**8.55** «Санта-Барбара».
**10.20—11.30** «Авадзень». Маст. фільм. 2-я серыя.
**16.20** Блак-нот.
**16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.05** Ваш партнёр «Сіменс».
**17.15** «К.Р.» Дак. фільм.
**17.45** «Цёмная» для І. Глазунова.
**18.00** Новае «Пятае кола».
**18.40** Асабліва важныя персоны.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.30** Рэк-тайм.
**20.45** Надвор'е.
**20.55** «Гарэм». Маст. фільм (ЗША). 1-я серыя.
**22.40** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.35** Хто на што здатны.
**23.50—0.15** Не спі і глядзі.

### Санкт-Пецярбург

**15.05** «Гісторыя кахання». Серыял.
**15.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**16.10** Парадоксы гісторыі. «Жыццё і прадказанні манаха Авеля».
**16.35** «Падарожжа па Японіі». Дак. фільм.
**17.05** «Тры колы, фаліянт і...»
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Гісторыя кахання». Серыял.
**20.15** Асабістая справа.
**20.45** Тэлеслужба бяспекі.
**21.00** «Забойны аддзел». Серыял.
**22.05** Спартыўны агляд.
**22.15** Падзея.
**22.30—23.10** «Дом кіно». Кэтрын Бігілоу, Мэгі Чунг, Кен Лоуч, Аліўе Асіяс і іншыя.

### НТБ

**5.00** Сёння раніцай.
**9.00** Маст. фільм «Маланка» (ЗША).
**10.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам».
**11.00, 13.00, 15.00** Сёння ўдзень.
**12.00** Расійскія універсітэты
**13.15** Вялікая «Часінка».
**15.30** Дыстанцыя 60.
**16.30** «Блакітнае дрэва». Маст. фільм (Італія—Аргенціна).
**17.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам».
**18.00, 21.00** Сёння ўвечары.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Джон Ленан у фільме Рычарда Лестэра «Як я выйграў вайну» (Вялікабрытанія).
**21.35** Гадзіна серыяла. «За мяжой магчымага» (ЗША).
**22.30** Часінка.
**23.00** Сёння апоўначы.
**23.20** Кіно не для ўсіх. Маст. фільм «Донуса» (Вялікабрытанія).

### 8-ы канал

**18.00** Мультфільм «Віні Пух».
**18.15** Маст. фільм «Вялікія дзяўчынкі не плачуць».
**20.00** Мульт-планета «Том і Джэры».
**20.15** Маст. фільм «Залатое цяля». 2-я серыя.
**21.45** Жыццё сабачае...
**22.00** Маст. фільм «Нага».
**23.55** Без каментарыя.



## РАДЫЁ

**Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00, 23.50.**

7.00 — «Радыёфакт». 8.10 — «Прамень». 9.00 — «Сёння ў газетах». 9.15 — «Па родным краі». На сувязі — Магілёў. 9.30 — праграма «Пульс». 10.05 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 10.35 — «Для тых, хто дома». 11.35 — працяг інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Прамень». 13.10 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Марым, слухаем, усміхаемся». 15.10 — музычны канал. 16.05 — 18.00 — «Радыё «Карусель» — дзецям і падлеткам. 16.05 — «Радыёпошук». Выпуск падрыхтаваны членамі клуба «Рэпарцёр». 16.45 — «Ля раяля — аўтар». 17.20 — «Пытанні ў паштовым канверце». Праграма па пісьмах падлеткаў. 18.00 — 18.40 — перадачы абласных тэлерадыёаб'яднанняў. (18.00 —19.00 — «Поступ часу». Вячэрняя праграма радыёстанцыі «Сталіца».) 19.00 — «Постфактум-радыё». 20.00 — з новых запісаў. 20.20 — «Супольніцтва». 20.50 — вячэрняя казка. 21.00 — «Для вас, ветэраны». 22.10 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 0.02—1.00 — начны канал. «Тэатр, тэатр, тэатр».

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

**Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.**

**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.**

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 94665. Індэкс 63850.**
**Зак. № 7642.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**